

Лідзія Буглай — простая совецкая дзяўчына. У сельгасарцелі «Ленінскі шлях» Нясвіжскага раёна Лідзію ведаюць як сумленную калгасніцу, актыўную комсамолку. Летась Лідзію Буглай прызначылі звеннявой па вырошчванню ільну. Слаўна папрацавала маладзёжнае звяно. Высокага ўраджаю ільну дабіліся маладыя калгасніцы.

Як толькі пачалося вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР, працоўныя Нясвіжскага раёна назвалі Лідзію Буглай сваім кандыдатам. 27 лютага Лідзія Буглай была выбрана дэпутатам Вярхоўнага Совета БССР

І вось Ліда прыехала ў Мінск, каб разам з другімі дэпутатамі Вярхоўнага Совета вырашыць пастаўленыя перад сесіяй задачы.

Шлях ад простай калгасніцы да дзяржаўнага дзеяча не з'яўляецца выключэннем у нашай совецкай рэчаіснасці. Усе дэпутаты Вярхоўнага Совета БССР — верныя сыны і дочкі народа.

На здымках: 1. У час адпачынку прыемна прагледзець новы нумар часопіса «Совецкі Саюз». 2. Лідзія Буглай аглядае выстаўку вырабаў мясцовай прамысловасці ў файе залы пасяджэнняў Вярхоўнага Совета.

Фото А. Дзітлава.



Гомельскі завод сельскагаспадарчага машынабудавання асвоіў выпуск новых стацыянарных зернесушылак «СЗС-2,0». У агрэгаце са звычайнымі сартыроўкамі і трыерам новая машына будзе за гадзіну ачышчаць, сушыць і сартыраваць да двух тон зерня.

Рацыяналізатары завода не спыняюць работу над далейшым удасканаленнем канструкцыі зернесушылкі.

На здымку: вядучы канструктар комсамолец Грыгорый Лаўрыненка (злева) і намеснік начальніка зборачнага цэха В. Зубараў ля першага экземпляра зернесушылкі абмяркоўваюць пытанне яе ўдасканалення.

Фото А. Дзітлава.





**Харэаграфічны спектакль паводле рускай народнай казкі «Рэпка» ў выкананні ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці Мінскага Палаца піянераў. Пастаноўка Е. Трэгубовіч.**

На здымках: **1. «Цягнуць-пацягнуць!» 2. Танец макаў. 3. Танец Кошкі і Жучкі.**

Фото А. Дзітлава.



У адным з інтэрнатаў Беларускага дзяржаўнага політэхнічнага Інстытута імя Сталіна. Група студэнтаў IV курса аўтатрактарнага факультэта чытае вершы В. Маякоўскага. Злева направа: І. Башкіраў, М. Мелех, Г. Чычыкаў, А. Манкевіч і М. Мінчанка.

Фото А. Дзітлава.

# ІМ АКАЗАНА ВЫСОКАЯ ЧЭСЦЬ

Сёлетняй вясной зноў адкрыецца Усесаюзная сельскагаспадарчая выстаўка. За год там адбыліся вялікія змены. Тысячы новых калгасаў, соўгасаў, МТС дабіліся права быць удзельнікамі выстаўкі 1955 года. У павільёнах будуць вывешаны партрэты новых герояў соцыялістычных палёў, якія сваёй працай дабіліся вялікіх поспехаў.



Яўгенія Кубака — адна з лепшых свінарак калгаса імя БВА Любанскага раёна. За поспехі ў працы яна зацверджана ўдзельнікам Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі 1955 года.



Комсамолка Марыя Шыбека, звеннявая калгаса імя Молатава Дубровенскага раёна, летась дабілася ўраджаю ільноваланна па 7 цэнтнераў і ільносемя па 9 цэнтнераў з гектара. У гэтым годзе звяно Марыі Шыбека ўзяло абавязацельства дабіцца ўраджаю ільноваланна 10 цэнтнераў. Марыя Шыбека зацверджана ўдзельнікам выстаўкі 1955 года.



Анна Паташова ў 1954 годзе разам са сваім звяном узяла з кожнага гектара па 9 цэнтнераў ільноваланна і ільносемя. Такіх ураджаяў яшчэ ніхто не дабіваўся ў калгасе «Шлях Сталіна» Крупскага раёна. Анна Паташова зацверджана ўдзельнікам Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі 1955 года.



Іван Кірчанка, камбайнер Брагінскай МТС Гомельскай вобласці, у мінулым годзе з'яўляўся ўдзельнікам Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. За поспехі, дасягнутыя ў 1954 годзе, Іван Кірчанка зацверджаны ўдзельнікам выстаўкі 1955 года.

Мал. А. Кашкурэвіча.

На першай старонцы вокладкі: **У кузні калгаса «Шлях да комунізма» Барысаўскага раёна. Пракоп Іванавіч Цімафееў, які мае трыццацігадовы стаж работы ля горна** (злева), **і яго новы вучань комсамолец Аляксей Машковіч за рамонтам сельскагаспадарчага інвентару.**

На чацвёртай старонцы вокладкі: **Пілот сельскагаспадарчай авіяцыі ўдзельнік Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі комсамолец Марат Лорман інструктуе комсамолак калгаса імя Гастэла Іру Клімянчук** (у цэнтры) **і Лёню Грыневіч, як трэба рыхтавацца да падкормкі з паветра азімых мінеральнымі ўгнаеннямі.**

Фото А. Дзітлава.



**9 студзеня 1921 года па запрашэнню сялян падмаскоўнай вёскі Горкі туды прыехаў Владзімір Ільіч Ленін. Ён гутарыў з сялянамі ў доме селяніна В. А. Шульгіна. Цяпер у гэтым доме жыве сын Шульгіна Васіль Васільевіч, калгаснік сельгасарцелі імя Владзіміра Ільіча. У гэтым-жа сяле жыве сямідзесяцітрохгадовая калгасніца Марыя Кірылаўна Бендзерына, якая вельмі часта сустракалася ў тыя гады з В. І. Леніным, бо яна працавала садоўнікам на дачы ў Горках. Нядаўна М. К. Бендзерына наведала В. В. Шульгіна і расказала яго сям'і пра свае сустрэчы з В. І. Леніным.**

На здымку: **М. К. Бендзерына сярод членаў сям'і В. В. Шульгіна.**

Фото М. Ананьіна.

Пролетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Год выдання III.

№ 4(25).

Красавік.

1955.

# НАСТАЎНІК І

**УСПАМІНЫ ПРА В. І. ЛЕНІНА**

**Е. Д. СТАСАВА**

Упершыню я даведалася пра Владзіміра Ільіча ад Надзежды Канстанцінаўны Крупскай. Мы абедзьве былі тады настаўніцамі нядзельных школ для рабочых і часта сустракаліся. З таго часу наша сувязь не парывалася, нягледзячы на тое, што цяжкасці, звязаныя з прабываннем у падполлі і эміграцыі, зусім не спрыялі гэтаму.

Успамінаюцца пісьмы Владзіміра Ільіча з-за мяжы ў Расію ў 1902—1905 гг. Нам прышлося тады весці вялікую барацьбу з «Рабочей мыслью» і яе паслядоўнікамі — «эканамістамі», а пазней — з меншавікамі. Калі з прычыны арыштаў таварышы выбывалі з нашых радоў, мы з вялікай асцярожнасцю ставіліся да новых людзей, а ў пісьмах да Владзіміра Ільіча скардзіліся, што нам нехапае работнікаў. І вось у 1905 г. у адным з пісем Владзімір Ільіч рэзка асудзіў нас за гэта. «Патрэбны маладыя сілы, — пісаў ён. — Я раіў-бы проста расстрэльваць на месцы тых, хто дазваляе сабе гаварыць, што людзей няма. У Расіі людзей безліч, трэба толькі шырэй і смялей, смялей і шырэй, яшчэ раз шырэй і яшчэ раз смялей вербаваць моладзь, не баючыся яе».

У бурныя дні першай рускай рэвалюцыі, вучачы нас таму, як трэба падрыхтоўваць узброенае паўстанне супраць царскага самадзяржаўя, В. І. Ленін пісаў: «Ідзіце да моладзі. Засноўвайце **адразу** баявыя дружыны скрозь і ўсюды і ў студэнтаў, і ў **рабочых асабліва**, і г. д. і г. д. Няхай адразу-ж арганізоўваюцца атрады ад 3-х да 10, да 30 і г. д. чалавек. Няхай адразу-ж узбройваюцца яны самі, хто як можа, хто рэвальверам, хто нажом, хто анучаю з карасінай для падпалу і г. д.»

У канцы жніўня 1905 года мяне накіравалі ў Жэневу загадваць усімі тэхнічнымі справамі Цэнтральнага Камітэта. Тады я ўпершыню ўбачыла Владзіміра Ільіча. Прыехаўшы ў Жэневу, я пайшла на кватэру «да Ільічоў». Гэта была кватэра Владзіміра Ільіча, Надзежды Канстанцінаўны і яе маці — Елізаветы Васільеўны. Дома я застала аднаго Владзіміра Ільіча. Ён мяне запрасіў у агульны пакой (гэта была кухня і адначасова сталовая) і пачаў пра ўсё распытваць: пра Пецербург, Пецербургскі камітэт, пра тое, што робіцца ў Расіі. Якраз вясной і летам 1905 г. адбываліся з'езды ўрачоў, настаўнікаў, адвакатаў і іншых груп інтэлігенцыі; яны стварылі саюзы, якія ўтварылі «Саюз саюзаў». Я расказала Владзіміру Ільічу, як мы змагаліся з лібераламі на гэтых з'ездах і ў саюзах. Владзімір Ільіч выслухаў мяне і сказаў: «Ведаеце што, вы павінны зрабіць даклад аб гэтым нашай тутэйшай рускай калоніі». Я разгубілася, таму што ніколі не выступала з дакладамі. Але Владзімір Ільіч пераканаў мяне, што даклад гэты патрэбен. У працэсе падрыхтоўкі даклада я ўбачыла, якім надзвычай добрым настаўнікам і таварышам быў Владзімір Ільіч. Ён цярпліва ўказваў мне на недахопы ў плане, а потым у тэзісах даклада. Ён старшынстваваў на сходзе і пасля заканчэння даклада зноў у некалькіх словах указаў на мае памылкі.

На сходзе рускіх соцыял-дэмакратаў 20 кастрычніка (2 лістапада) 1905 г. я ўпершыню пачула Владзіміра Ільіча як прамоўцу. Ленін выступаў з рэфератам аб палітычных падзеях у Расіі. Выступленні Владзіміра Ільіча застаюцца ў памяці на ўсё жыццё. Владзімір Ільіч так захапляў аўдыторыю, яго прамовы былі прасякнуты такой жалезнай логікай, што рэдка хто асмельваўся проста і адкрыта пярэчыць яму. На дакладзе Леніна былі і меншавікі, але ў часе даклада з іх боку не раздалося ніводнага воклічу. Ільіча не перабівалі. А калі закончыўся даклад, ніхто з меншавікоў не выступіў супраць Леніна. Толькі на наступны дзень яны ў прыватных спрэчках выказалі свае пярэчанні супраць палажэнняў Владзіміра Ільіча.

Знешне Владзімір Ільіч гаварыў вельмі проста. Ён звычайна пахаджваў узад і ўперад, іншы раз закладваў вялікія пальцы рук за проймы камізэлькі, іншы раз працягваў уперад правую руку з выцягнутым указальным пальцам. Слухаючы пазней Плеханава, я міжволі параўноўвала яго з Владзімірам Ільічом. Плеханаў быў выдатным прамоўцам, гаварыў прыгожа, з павышэннем і паніжэннем голасу і выразнымі жэстамі, як актор, але ў яго не было ленінскай сілы логікі, сілы пераканання.

Владзімір Ільіч быў выключна ўважлівым да таварышаў. Раскажу пра адзін выпадак з майго асабістага жыцця, які меў месца ў канцы кастрычніка таго-ж 1905 года. Я тады жыла ў пансіёне ў Жэневе. Аднойчы Владзімір Ільіч зайшоў да мяне і пачаў распытваць, як мы працавалі з Бауманам у Маскве, як разам сядзелі ў турме. Я расказала, што Бауман сядзеў у ізалятары і мы ў турме шукалі спосабу, каб наладзіць з ім сувязь і трымаць яго ў курсе ўсіх падзей. Пасля таго, як судовая палата адхіліла слуханне нашай справы, мы хадайнічалі, каб Баумана выпусцілі на парукі, але дабіцца гэтага не ўдалося. Выслухаўшы мяне, Владзімір Ільіч сказаў:



З карціны «В. І. Ленін з дзетварой» мастака А. Г. Варламава.

# ДРУГ

«А Надзі * ўдалося дабіцца, каб Нікалая Эрнеставіча выпусцілі, але гэта не было да шчасця, таму што неўзабаве пасля вызвалення з турмы ён быў забіты чорнасоценцамі». Толькі пасля гэтага Владзімір Ільіч перадаў мне англійскую газету, у якой паведамлялася аб забойстве Баўмана. Ведаючы пра маю дружбу з Баўманам, Владзімір Ільіч не хацеў, каб я даведалася пра яго смерць з газеты.

Або вось яшчэ прыклады, якія адносяцца ўжо да другога часу, калі пасля ўстанаўлення Совецкай улады я працавала сакратаром ЦК партыі. Владзімір Ільіч часта папракаў А. Д. Цюрупу за нядбайныя адносіны да свайго здароўя. Ільіч гаварыў, што комуніст — гэта казённая маёмасць, і растрачваць гэтую казённую маёмасць не дазваляецца. Калі В. І. Ленін даведаўся, што Ф. Э. Дзержынскі дапрацаваўся да кровахаркання і не хоча адпачываць, ён пазваніў мне і прапанаваў прынясць рашэнне ЦК аб тым, што Дзержынскаму прадпісваецца пайсці на два тыдні ў адпачынак у Нарафамінск. Тады ў Нарафамінску быў лепшы пад Масквой соўгас, і Дзержынскі мог атрымаць там добрае харчаванне. Владзімір Ільіч, прадумаўшы ўсё да дробязей, улічыў і тое, што ў соўгасе не было тэлефона, і такім чынам Дзержынскі не будзе званіць у Маскву і таму лепш зможа адпачыць. В. І. Ленін клапаціўся аб тым, каб таму ці іншаму таварышу быў выдадзены абутак або шапка, каб ва ўсіх памяшканнях Соўнаркома былі пастаўлены графіны з вадою і шклянкі для наведвальнікаў.

Хочацца сказаць аб незвычайнай сціпласці Леніна. На пытанне адной анкеты: «якой мовай вы валодаеце» — ён напісаў, што ведае «англійскую, нямецкую, французскую — дрэнна, італьянскую — вельмі дрэнна». На самай-жа справе гэта было зусім не так. Памятаю, у чэрвені 1920 г., незадоўга да II кангрэса Комінтэрна, у Маскву прыехалі два прадстаўнікі французскай соцыялістычнай партыі, у тым ліку і Марсель Кашэн, адзін з заснавальнікаў Французскай комуністычнай партыі. Калі члены ЦК сабраліся ў кабінеце Владзіміра Ільіча, ён пасадзіў мяне бліжэй да сябе, каб я, ведаючы французскую мову, у выпадку неабходнасці дапамагла ў размове з французскімі таварышамі. Размова прадаўжалася паўтары гадзіны, і ўвесь гэты час Ленін свабодна гаварыў з прыехаўшымі таварышамі на французскай мове. На працягу ўсёй гутаркі мне давялося падказаць Владзіміру Ільічу толькі два-тры словы.

Владзімір Ільіч вельмі цаніў час. Пасяджэнне ЦК партыі звычайна назначалася ў 10 гадзін раніцы. Владзімір Ільіч адкрываў яго не пазней чвэрці адзінаццатай. Час прамоўцаў строга рэгламентаваўся, звычайна ім давалася 2 хвіліны. Владзімір Ільіч сачыў за прамоўцамі па хранометру. Размоў у час пасяджэнняў Владзімір Ільіч не цярпеў. Як толькі хто-небудзь пачынаў гаварыць, ён адразу-ж грaзіў пальцам, гаварыў: «Тс, тс» і паказваў: «Пішыце». Калі хочаце паведаміць што-небудзь таварышу, то пішыце, але не перашкаджайце другім сваімі размовамі. Таму ў час пасяджэнняў адбываўся вялікі абмен запіскамі. Кіруючы пасяджэннем, Владзімір Ільіч адначасова рабіў неабходныя запісы для свайго заключэння і абменьваўся запіскамі з прысутнымі. Курыць на пасяджэнні было забаронена, а выходзіць—тым больш. Тады многія курыльшчыкі, дзейнічаючы, як школьнікі, садзіліся за вялікай галандскай печкай, якая стаяла ў кабінеце Владзіміра Ільіча, і курылі ў душнік. Калі адбывалася галасаванне, Владзімір Ільіч, хітра прыжмурыўшыся, іранічна гаварыў: «А як галасуюць запечных спраў майстры?»

У дзень пяцідзесяцігоддзя В. І. Леніна я была хворая і не магла яго ўбачыць. Але мне хацелася зрабіць Владзіміру Ільічу што-небудзь прыемнае. Разбіраючы свае рэчы, я знайшла карыкатуру вядомага карыкатурыста Карыка, на якой быў паказаны юбілей народніка Міхайлоўскага. За сталом, накрытым сукном, стаяў расчулены Міхайлоўскі. У адной руцэ ён трымаў скінутае пенснэ, у другой — хусцінку, якою толькі што выціраў слёзы. Міхайлоўскага акружалі Южакоў, Мякоцін, Струве, А. М. Калмыкова, а перад сталом стаяла двое дзяцей: хлопчык у матросцы і дзяўчынка ў тым узросце, калі яе заплеценыя косы нагадваюць пацучыны хвосцік. Гэта «марксяты» прышлі вітаць народнікаў. Я напісала Леніну, што вось, моў, калі быў юбілей Міхайлоўскага, мы былі яшчэ ў дзіцячым узросце, а цяпер мы вялікая партыя, усё гэта дзякуючы вашай рабоце, вашаму таленту. Леніну спадабалася карыкатура.

Вечарам Владзімір Ільіч, выступаючы на сходзе, арганізаваным Маскоўскім Камітэтам РКП(б) у гонар яго пяцідзесяцігоддзя, паказаў карыкатуру прысутным. Ён сказаў прамову, у якой высмеяў юбілейнае славаслоўе, коратка намаляваў шлях, пройдзены нашай партыяй, сказаў пра цяжкасці, якія стаяць перад ёю, заклікаў не захапляцца поспехамі, не зазнавацца. У гэтым выступленні В. І. Леніна, як і ва ўсёй яго дзейнасці, яскрава праявіліся арганічна ўласцівыя яму рысы: выключная сціпласць, цвярозасць у ацэнцы становішча, варожасць да ўсхваленняў і пышных фраз.

* Гутарка ідзе пра жонку Н. Э. Баўмана Капіталіну Палікарпаўну Мядзведзеву, якая насіла клічку «Надзежда Канстанцінаўна Кузьміна».



**Партыя і Ленін —**
**двайня братняя, —**
**аднолькава іх**
**маці-гісторыя**
**ацэніць.**
**Мы гаворым — Ленін,**
**разумеем —**
**партыя,**
**мы гаворым —**
**партыя,**
**разумеем —**
**Ленін.**

Вл. МАЯКОЎСКІ.




Фото А. Дзітлава.

# Красавік прышоў

Раман САБАЛЕНКА

Першая праталіна на заснежаным полі! Як яна радуе позірк чалавека! Значыць, вясна не заспала, не забавілася недзе там, на поўдні, а ўжо ў сакавіку паклала свой след на заснежаную бель палеткаў. І не толькі чалавек радуецца гэтаму першаму следу вясны. Вунь ужо і жаўрук, праўда, яшчэ нясмела, як той малады музыка, спрабуе струны сваёй песні. Тыдзень, два — і яна, жаўрукова песня, узляціць пад самы блакіт нябёс, і ўжо не над першай праталінай, а над неагляднай шырызною калгасных палеткаў, якія пад цёплым красавіцкім сонцам аж запаруюць ад духмяных подыхаў вясны. І чуеш ужо — заракатаў першы трактар на тлустай раллі, засакаталі колы па леташніх каляінах палявых дарог.

Вясна — сімвал маладосці, радасці, шчасця!

Вясна — руплівая пара... Яе нельга праспаць ні чалавеку, ні птаху, ні траўцы, ні дрэўцу — нікому і нічому.

Красавік прышоў і ў калгас імя Сталіна. Доўга не здавалася зіма. Вунь яшчэ пад платамі, пад хатамі ў цяньку ляжыць счарнелы, як вугаль, лёд... Але і да яго дабярэцца шчодрае вясновае сонца.

Першая баразна ў полі, першы заход радковай сеялкі, і зярняткі леглі ў мяккі пух цёплай раллі. Але леглі яны не спаць, а прачнуцца і пацягнуцца ў дужы рост, каб праз месяц-два закрасаваць, наліцца сокамі зямлі і легчы духмяным боханам у кожную хату на стол.

Рупліва рыхтаваліся калгаснікі сельгасарцелі імя Сталіна да сёлетняй вясны. Трактарысты трактарнай брыгады Ляхавіцкай МТС, якая абслугоўвае калгас, загадзя зрабілі агляд машын, адрамантавалі іх, і ўжо чакалі подыхаў вясны. А як толькі яна прышла, малады трактарыст Уладзімір Арэшка вывеў свой дужы ДТ-54 на бяскрайні палетак. Роўна запрацавала сэрца машыны — матор, і машына робіць заход за заходам. А перад гэтым з поля ішоў, несучы ў руках камяк зямлі, брыгадзір Міхаіл Зянюк. Ён сам расцёр у пальцах каліва зямлі. Яна была трохі яшчэ вільготнай, але нічога: культываваць, араць можна. Ён сустрэў намесніка старшыні калгаса т. Шоду і звярнуўся да яго:

— На, паглядзі, Міхась, ці можна ўжо сеяць?

Той узяў у пальцы камячкі зямлі, пацёр іх і, паважаючы вопыт старога чалавека, адказаў яму:

— А вы глядзіце, вы-ж больш ведаеце за мяне. А тым часам мне здаецца, што можна ўжо на поле выходзіць і з сеялкай.

Даносіўся размераны гул трактараў, якія працавалі непадалёк ад сядзібы калгаса — культывавалі зямлю пад лён. У сёлетнім годзе калгас вырашыў пасеяць сто гектараў ільну. І летась ільну сеялі нямала — 80 гектараў. Але да яго не было гаспадарскіх адносін, і ўрадзіў ён не вельмі. Комсамольская арганізацыя, якою з восені кіруе ініцыятыўны сакратар Уладзімір Жук, вырашыла ўзяць у свае рукі справу ільнаводства і кукурузы і дабіцца, каб сёлета гэтыя культуры выраслі наславу. За зіму комсамольцы сабралі 20 тон попелу — гэта-ж добрае

На здымку: **Вольга Арэшка нагрузіла поўныя драбіны мяхоў з насеннем і павезла на поле.**

І вось пад вечар, вярнуўшыся з поля, Венядзікт Сідаравіч Войтуль запісвае выпрацоўку на дошку паказчыкаў.




ўгнаенне пад лён. Зімой калгаснікі ездзілі ў сельгасарцель «Новае жыццё» Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці абменьваць ільнонасенне на лепшы гатунак «Светач». Там ім звеннявая Ева Карачан расказала, што яе звяно ў леташнім годзе вырасціла такі лён, які даў калгасу з кожнага гектара больш як па дваццаць тысяч рублёў прыбытку, а яна сама атрымала ад ільну блізка каля дваццаці тысяч рублёў. Гэта ўсхваляваліа пасланцоў калгаса. Амаль усю зіму толькі і ішла гаворка пра гэта. Камсамольская арганізацыя на сваім сходзе абмеркавала пытанне аб тым, як вырошчваць высокія ўраджаі ільну і кукурузы. Усю зіму на занятках агразоатэхнічнага гуртка камсамольцы і калгаснікі вывучалі агратэхніку вырошчвання гэтых культур, вопыт передавікоў. І ўжо не толькі тэарэтычна, але і практычна шмат чаго зроблена, каб гэтыя культуры не ведалі ўпынку ў сваім росце. Камсамольцы нарыхтавалі 20 тон попелу, арганічных і мінеральных угнаенняў у такой колькасці, якая павінна забяспечыць высокі ўраджай.

Гудзе трактар, а ўгледзішся на поле і пабачыш: перад трактарам роўным ланцужком ідуць дзяўчаты — гэта звяно Софы Раманоўскай. Кожная набірае з сяўні жменю попелу, змяшанага з арганічнымі ўгнаеннямі, і рассявае па полі. Толькі пылок курыцца над палеткам. Добра падгадоўваюць зярняткі ільну дзяўчаты, каб яны не залежаліся ў зямлі, а хуценька ішлі ў рост.

І лён, і насенне ўсіх культур просіцца ў зямлю. Пара такая прышла. Маладая калгасніца трэцяй паляводчай брыгады, першая спявачка на вёсцы Вольга Арэшка пад'ехала на возе да калгаснага свірна. Поўныя драбіны нагрузілі мяхоў з залацістым зернем. Яна павезла яго зараз на загон, а там радковая сеялка пасцеле яго радкамі ў зямлю, і праз які тыдзень яно зарунее зялёнай маладой шчэццю. У зямлі яму хапае і вільгаці, і пажывы — толькі расці, буяй пад цёплымі, ласкавымі праменнямі вясновага сонца.

У кожнага ў гэтыя вясновыя дні свой клопат. Брыгадзір трэцяй паляводчай брыгады Сцяпан Аляксандравіч Гаціла раніцай адправіў людзей на поле, расставіў іх як мае быць на працы. Цяпер ён вярнуўся ў праўленне па «козы». Ён яшчэ не прывык браць іх з сабой зранку. А трэба-ж памераць, колькі трактарысты закультывавалі, колькі падкормлена азімых, колькі пасеяна яравых.

Але, бадай, за ўсіх больш клопату сакратару пярвічнай партыйнай арганізацыі Венядзікту Сідаравічу Войтулю. Чалавек ён ужо немалады, але за дзень на сваіх нагах пабывае ва ўсіх васьмі брыгадах: там, дзе культывуюць, дзе падкормліваюць, дзе сеюць. І вось пад вечар, вярнуўшыся з поля, ён запісвае выпрацоўку на дошку паказчыкаў, і ўвечары калгаснікі ўбачаць, якая брыгада ідзе ўперадзе з першага дня вясны. Ён забег зранку і ў Дом культуры. Сустрэў бібліятэкара-масавіка Надзю Грамак і сказаў ёй:

— Ведаеш што, Надзя, добра было-б падрыхтаваць бібліятэчкі-перасоўкі і паслаць у брыгады. Выдасца вольная часіна, няхай людзі пачытаюць.

— Добра, Венядзікт Сідаравіч, — адказала тая. І не паспеў ён зачыніць дзвярэй бібліятэкі, як Надзя ўзялася падбіраць кнігі. Там былі і пра кукурузу, і пра лён, і пра іншыя культуры. Былі і цікавыя мастацкія творы.

«Можа, што ім спатрэбіцца даведацца з кніжак, дык няхай будуць пад рукамі», — падумала сабе Надзя і, падабраўшы пяць бібліятэчак-перасовак, пайшла ў брыгады.

— На, паглядзі, Міхась, ці можна ўжо сеяць?






...Не паспелі зачыніцца дзверы бібліятэкі, як Надзя Грамак узялася падбіраць кнігі.



...Малады трактарыст Уладзімір Арэшка вывеў свой дужы ДТ-54 на бяскрайні палетак.

Не падумайце, што ў калгаснага статыстыка Надзі Глобаж няма ніякага клопату, што ёй толькі сядзі ды карпей над паперамі ў канторы. І ў кантору прышла вясна не толькі праз тое расчыненае насцеж акно, у якое заглядае сонейка. Вясна прышла і ў кнігі — трэба-ж акуратна запісаць тое, што зроблена руплівымі рукамі калгаснікаў на полі. А тут яе раз-по-разу адрываюць. Звоніць і звоніць тэлефон, і яна, узяўшы на ўсякі выпадак звесткі, падыйшла да яго.

— Калгас імя Сталіна вас слухае! Адкуль, вы кажаце? З райкома комсамола? Як з кукурузаю?.. Рыхтуем глебу. Комсамольскае звяно бярэцца за работу як трэба. А колькі сеяць будзем?.. «Дзівак нейкі, не ведае», — падумала сабе Надзя і ўжо ўголас адказала: — Усяго 120 гектараў. Комсамольскае звяно Ніны Кевель пасее 15 гектараў на насенне.

Потым яшчэ статыстыку давялося перадаваць зводку ў МТС. І хоць гэта работа не на полі, не пад ласкавымі подыхамі вясновага красавіцкага ветрыку, але дзяўчыне ўсеадно радасна: вясна прышла ва ўсе куткі, ва ўсе мясціны. Яна прышла, як гаспадыня, і неўзабаве пагоніць у рост маладыя парасткі жыцця.

Сцяпан Аляксандравіч Гаціла раніцай адправіў людзей на поле, расставіў іх як мае быць на працы. Цяпер ён вярнуўся ў праўленне па «козы».






Статыстык Надзя Глобаж падыйшла да тэлефона: — Калгас імя Сталіна вас слухае!

# Слухаючы справы аб разводзе

У маленькай зале абласнога суда было вельмі людна, бо слухалася не зусім звычайная справа: разводзіліся маладыя людзі, якія за час свайго сумеснага жыцця не паспелі нават запомніць колер вачэй адзін другога. Як і заўсёды, калі суд пайшоў на нараду, аматары судовых спраў горача заспрачаліся. Адны вінавацілі хлопца, другія — дзяўчыну. Нечакана сярод гэтага гармідару пачуўся ўедлівы голас пажылой жанчыны ў пацёртым цыгейкавым футры:

— Моладзь цяпер пайшла лёгкадумная... Распуста адна...

Усе змоўклі. Тады кірпаносы, вяснушчаты юнак у ватоўцы і старэнькай шапцы-вушанцы злосна запытаў:

— З чаго гэта вы ўзялі?

— А хіба вось такія разводныя працэсы не пацвярджаюць маіх слоў?

Кірпаносы ўсміхнуўся:

— Вы, мусіць, наведаўшы вар'яцкі дом, зрабілі-б вывад, што ўсе людзі вар'яты. Хіба можна, праслухаўшы некалькі спраў аб разводзе, рабіць вывады аб маральным узроўні нашай моладзі? Вы-ж тут сустракаецеся з няпоўнацэннымі людзьмі...

Можа, юнак крыху пагарачыўся, сказаў занадта моцна, але і сапраўды, слухаючы справы аб разводзе, неяк самі сабою прыходзяць на памяць гэтыя словы: няпоўнацэнныя людзі...

Перад судом — муж і жонка. Яшчэ зусім нядаўна яны знаходзілі адно для другога пяшчотныя словы, не маглі і дня пражыць адзін без аднаго, а вось цяпер і на людзях гавораць мноства крыўднага, балючага. Нават цяжка ўявіць, што гэтыя людзі некалі прызнаваліся ў каханні, падоўгу хадзілі ля дома, не маючы сіл развітацца, моцна пацiскалі рукі, цалаваліся.

Вядома, як і з кожнага правіла, ёсць і тут выключэнні. Часам людзі разыходзяцца па прычынах, якія ад іх не залежаць. Гаворка ідзе не пра іх, а пра тых, сапраўды непоўнацэнных людзей, якія лёгкадумна разбураюць сям'ю.

З цвёрдай канапы падымаецца лысы невысокі чалавек у паліто з каракулевым каўняром. Камечачы ў руках шапку, ён, не спяшаючыся, дае паказанні. Гэта Філіп Яўсеевіч Захарчык, інструктар санітарнай асветы Любанскага раённага аддзела аховы здароўя. Гаворыць Захарчык высокапарнай мовай, і паступова з-за яго слоў выступае пусты чалавек, які вельмі многа думаў пра свае забавы і зусім не думаў пра сям'ю. Ён хлусіць, выкручваецца, імкнучыся паказаць сябе клапатлівым бацькам, культурным выхавацелем дзяцей, але тут-жа суддзя выкрывае яго.

Выступаючы ў судзе, яго жонка, простая, не вельмі пісьменная жанчына, абазвала мужа злодзеем, які абакраў іх сям'ю. І калі суддзя запыталася ў яе, якія рэчы былі ўкрадзены мужам, жонка адказала:

— Ён украў у мяне і ў маіх дзяцей шчасце.

Так, чалавек, які пакідае сям'ю, які забывае свае абавязкі перад ёю, — сапраўды злодзей. Мы, савецкія людзі, з пагардай глядзім на жулікаў, прайдзісветаў, авантурыстаў. Заўважыўшы, як злодзей залазіць у кішэню, мы бярэм яго за каўнер і аддаем правасуддзю. Але мы вельмі часта маўкліва і абыякава праходзім міма тых людзей, якія абкрадаюць чужое жыццё, якія па-зладзейску крадуць каханне, радасць не толькі ў блізкага ім чалавека, але і ў сваіх-жа дзяцей.

Совецкая сям'я—маленькая ячэйка нашага соцыялістычнага грамадства. Ад таго, наколькі яна моцная, наколькі ўнутры яе існуюць шчырыя, праўдзівыя адносіны, у многім залежыць маральны дух выхаванцаў гэтай ячэйкі. Хіба-ж можа дзіця атрымаць правільнае выхаванне там, дзе бацькі хлусяць адзін другому, дзе шчырыя адносіны падменены крывадушшам, дзе скаргі і спрэчкі аб дробязях не пакідаюць кватэру, як туберкулёзная бацыла — цёмнага сутарэння.

Не, мы не можам быць роўнадушнымі да так званых асабістых спраў людзей, бо распад кожнай сям'і гэта не маленькая трагедыя, і часам не аднаго чалавека.

Нядаўна абласны суд задаволіў хадайніцтва Раісы Склют, да замужжаства Раісы Баршчовай, урача 6-й паліклінікі горада Мінска, аб скасаванні яе шлюбу з урачом навукова-даследчага інстытута неўралгіі і нейрахірургіі Іосіфам Склютам. Маладыя пражылі толькі два гады і разыйшліся. Чаму? Раіса Баршчова тлумачыць гэта тым, што ў яе не было моцных пачуццяў. Чаму-ж яна тады выходзіла замуж? Толькі таму, каб застацца ў Мінску? Магчыма. Яна не задумалася над тым, што будзе ў далейшым, яе цікавіў толькі ўласны лёс, толькі свой добрабыт. Для яе замужжаства — проста маленькая прыгода. Разыйшлася з адным, будзе другі. Так, вядома, Раіса Баршчова знойдзе сабе мужа, як і Іосіф Склют — жонку, але ці падумалі яны, што іх дачцы Наташы нанесена такая рана, якая ніколі не загоіцца. Цяпер, калі яна маленькая, яе можна ашукаць, прымусіць называць чужога чалавека татам, але калі яна вырасце, то запытае ў вас, грамадзянка Баршчова, чаму вы так лёгкадумна пазбавілі яе магчымасці называць бацьку бацькам.

Эгаізм — найгоршы перажытак мінулага. Эгаіст у імя свайго шчасця і нікчэмнай маленькай радасці гатовы пайсці на самы абураючы ўчынак. Эгаіст будуе сваё жыццё на няшчасці другіх. Абы добра было мне, — гаворыць ён і робіць брудныя справы.

Васіль Карповіч працаваў у Нясвіжскай будаўнічай канторы.

— Што вы, хлопцы, губляецеся, — спрабаваў ён разбэшчваць таварышаў па рабоце, — прыжаніліся-б: і кватэра дармовая, і харч танны.

Хлопцы, аднак, не слухалі гэтага чалавека. Затое сам Карповіч дзейнічаў смела і нахабна. Праўда, і яму не ўдалося, як ён казаў, прыжаніцца. Ірына Гарашэвіч, якая пакахала яго, не хацела парушаць прынцыпы нашай маралі. Што заставалася рабіць нягодніку? Каб дабіцца свайго, ён рэгіструе шлюб, гуляе вяселле, смачна есць, многа спіць і будуе планы новых пахаджэнняў. Хутка ён знікае з Нясвіжа, едзе ў Кармянскі раён, жэніцца там.

Эгаістаў, прайдзісветаў не так ужо многа, але яны наносяць вялікую шкоду. Яны прымушаюць маладых, нявопытных людзей рабіць няправільныя вывады, быццам усе на свеце ашуканцы. Між тым, наша совецкая моладзь маральна ўстойлівая, чыстая, праўдзівая. І калі сярод нас паяўляецца чалавек з крывой, чорнай душой, з подлымі думкамі, дык, як кажуць, сям'я не без урода.

Колькі было выпадкаў калі сем'і распадаліся таму, што таварышы па рабоце, сябры кіраваліся прынцыпам: не ўмешвайся ў сямейныя справы.

Блізкія і далёкія знаёмыя даўно ведалі, што жонка Аркадзя Г. непрыстойна сябе трымае, ашуквае мужа, ходзіць па рэстаранах, занядбала сваю дачку. Яе асуджалі,

здзіўляліся, што Аркадзь такі даверлівы, не прымае захадаў супраць непрыстойнасцяў жонкі. Аднак ніхто не адважыўся пагаварыць ні з Нінай Г., ні з Аркадзем. Між тым, Ніна ўсё больш і больш заблытвалася ў сваіх справах. Каб схаваць сляды лёгкадумных павадзін, Ніне спатрэбілася звяртацца да акушэркі. Тая запрасіла з яе грошы, якіх у Ніны не было. Маладая жанчына вымушана была прадаць свой залаты гадзіннік, а каб не выклікаць падазрэння ў мужа, сказала, што гадзіннік у яе ўкралі. Зусім выпадкова гадзіннік купіла жонка аднаго супрацоўніка Аркадзя, які нядаўна пачаў працаваць у гэтай установе. Аркадзь пазнаў гадзіннік. Каб рэабілітаваць сябе, жонка новага супрацоўніка вымушана была шукаць тую жанчыну, якая прадала гадзіннік. Якое-ж было здзіўленне Аркадзя, калі прадаўцом гадзінніка аказалася яго жонка!

Ніна праз некалькі год пасля гэтага гаварыла: «Тады я была маладая і дурная. Думала — шчасце ў бесклапотнасці і гульнях. Калі-б мяне хто-небудзь са старэйшых паправіў, я ніколі не вяла-б сябе непрыстойна. А так маўклівасць сяброў і знаёмых, а часам і прамая падтрымка, толькі заахвочвалі мяне да новых пахаджэнняў. Нават было цікава весці гэтую гульню ў хованкі».

Вядома, умешвацца ў сямейныя справы трэба тактоўна, разумна, а галоўнае — шчыра. Бо часам бестактоўнае ўмяшанне прыводзіць да непатрэбных эксцэсаў.

Комсамольскія арганізацыі вельмі мала наладжваюць лекцый і дакладаў аб каханні, сям'і і шлюбе ў соцыялістычным грамадстве. Юнакам і дзяўчатам многа і цярпліва растлумачваюць іх задачы па выкананню вытворчых планаў, па эканоміі матэрыялаў і дзяржаўных сродкаў, але вельмі мала гавораць аб тым, як трэба будаваць сям'ю, як выхоўваць сваіх дзяцей.

А між тым вельмі часта маладыя людзі няправільна разумеюць сумеснае, сямейнае жыццё. Вельмі многія юнакі і дзяўчаты ўяўляюць сямейнае жыццё са старонак бесканфліктнага рамана. Не жыццё, а рай: муж папярэджвае ўсе жаданні жонкі і наадварот, і думаюць яны не двума галовамі, а адной — не сям'я, а гэткі ружа-бэзавы гібрыд. Затое, калі муж даведаўся, што жонка трэці месяц не плаціла прафсаюзных узносаў і купіла на камод фарфоравую статуэтку, ён неадкладна ставіць усё на прынцыповую вышыню і патрабуе пакінуць мяшчанскія замашкі. У жонкі аказваецца цвёрды характар. Яна не ўступае. І вось муж кідае жонку, пераходзіць жыць у інтэрнат. У раманах звычайна жонка ўсведамляе сваю памылку: плаціць членскія ўзносы, статуэтку дорыць прыбіральшчыцы цёці Дашы і зноў цячэружовая рака жыцця.

А ў сапраўднасці ўсё бывае інакш. Бываюць і спрэчкі, і сваркі, і кароткія разлады, але не яны вырашаюць узаемаадносіны паміж мужам і жонкай. Іх характарызуе гарачае, шчырае каханне, усведамленне вялікай адказнасці перад грамадствам за выхаванне дзяцей у комуністычным духу. Неяк адзін са старых людзей на пытанне, з чым можна параўнаць яго амаль пяцідзесяцігадовае сямейнае жыццё, адказаў: «З кустом руж. Здаралася, што па неасцярожнасці калоў і рукі і нос, але ўсё-ж кветкі больш яркія, чым шыпы, ды і праколінкі ад шыпоў зажываюць хутка».

У нас ёсць такія маладыя людзі, якія дробязь, глупства ўзводзяць у прынцыповасць і разбураюць сям'ю. Аднойчы ў судзе слухалася справа аб разводзе зусім яшчэ «зялёных» маладых людзей. Абодвум разам не было і сарака пяці гадоў. Справа была складаная, са сведкамі з аднаго і другога боку.

Муж — малады інжынер, жонка — рахункновы работнік. Маладыя людзі доўга сустракаліся, моцна кахалі адзін другога. І вось яны пажаніліся, згулялі вяселле. А праз некалькі тыдняў пачаліся спрэчкі, сваркі, якія закончыліся разладам.

Андрэй любіў валейбол. Ліда раней мірылася з гэтым, ёй нават падабалася, што муж гуляе спрытна, з азартам. Нешта на трэці тыдзень пасля вяселля Андрэй загуляўся і ледзь не спазніўся дадому (у яго з Лідай была дамоўленасць пайсці ў 7 гадзін у кіно). Ліда была пакрыўджана і патрабавала неадкладна кінуць «гэты нікчэмны валейбол». Андрэй палічыў гэта замахам на яго асабістую свабоду. Адбылася спрэчка. У кіно пайшлі злосныя, незадаволеныя адзін другім. Можна было забыцца пра гэта, і жыццё пайшло-б сваім рэчышчам. Але тут усё было інакш. Муж запомніў крыўду, і калі аднойчы Ліда заседзелася ў сяброўкі, ён прыпомніў ёй мінулую спрэчку. Дробныя крыўды напластоўваліся, як пыл у закінутым пакоі. Цяпер Андрэй і Ліда лавілі адзін другога на дробязях і абвінавачвалі ў адсутнасці любві, уважлівасці і наогул чалавечнасці. Сваркі пачыналіся з дробязей.

— Ты не бачыў маёй шпількі? — пыталася Ліда, падымаючыся раніцой з пасцелі.

— Чаму ты такая неакуратная? Усё губляеш, — гаварыў муж.

— А ты акуратны? Заўчора сам згубіў наскі, а потым мяне вінаваціў.

— Мы дамовіліся ўжо не ўспамінаць мінулае.

— Мне так падабаецца...

— Нервы мне вымотваць?

— Ты мне больш вымотваеш.

Слова за слова, забывалася злашчасная шпілька, супругі ўзнагароджвалі адзін другога рознымі непрыемнымі эпітэтамі.

Ліда гаварыла суседкам:

— Ніяк яму не дагодзіш! Цяжкі ў Андрэя характар.

Андрэй скардзіўся таварышам:

— Яна хоча мяне ў паслухмянага асла ператварыць. Нават у валейбол забараняе гуляць.

Калі камяк узаемных крыўд стаў вельмі вялікім, яны сказалі адзін другому: далей жыць нельга. Напісалі заяву і занеслі ў суд. У раённым судзе іх спрабавалі прымірыць. Яны не згадзіліся. Нехта сказаў ім, што абласны суд таксама не расторгне шлюбу, патрэбны сведкі. Абодва знайшлі сведкаў. І ўсё-ж суд рашыў, што матывы для разводу нікчэмныя. Трэба было падаваць справу ў Вярхоўны Суд.

Андрэй наняў кватэру і жыў адзін. Сям'я, дзе ён здымаў пакой, была вялікая, але дружная. Андрэй прыглядаўся да сваіх гаспадароў, стараўся зразумець, чаму ў яго так няўдала склалася жыццё.

Аднойчы, калі ён, прышоўшы з работы, ляжаў і думаў над сваім жыццём, гаспадыня накінулася на мужа, які чамусьці прышоў з работы на цэлую гадзіну пазней.

«Ага, — злосна падумаў Андрэй,— і тут не ўсё гладка. Вось зараз гаспадар усыпле ёй».

Але гаспадар, на здзіўленне Андрэя, вельмі ласкава запытаўся:

— Ты сябе, Марынка, дрэнна адчуваеш ці, можа, што здарылася?

— Нічога, — са злосцю ў голасе адказала жонка.

— Не хлусі, маці, бачу, нешта здарылася.

Андрэй паглядзеў у шчылінку. Гаспадар абняў жонку, прытуліў да сябе, пагладзіў па галаве. Раптам жонка ўсхліпнула і пачала расказваць, што іх сын Коля пабіўся на вуліцы, разбіў брыво, а яна яго адлупцавала і вельмі балюча.

— Ну вось, маці, і лягчэй стала.

Гаспадар пасадзіў яе побач і яны доўга абмяркоўвалі, што рабіць, каб Коля больш не біўся, вёў сябе добра. І тады раптам Андрэю ўсё стала зразумела. Ён апрануўся і пайшоў.

— Ну, і дурныя мы, Ліда, — сказаў ён замест прывітання, — такія дурныя, аж сорамна.

Цяпер у Андрэя і Ліды двое дзяцей. Жыве Ліда з Андрэем у ладзе ды згодзе.

Але, напэўна, больш за ўсё разводзяцца людзі таму, што вельмі часта юнакі і дзяўчаты лёгкадумна знаёмяцца і вырашаюць свой лёс паспешліва, нават не параіўшыся з таварышамі.

Адзін прыстойны малады чалавек, назавем яго Н., пазнаёміўся з дзяўчынай. Была яна прыгожая, вясёлая, смелая. З ёй не было сумна. Дзяўчына назвала ўстанову, у якой яна працуе. Установа была салідная. Н. закахаўся ў дзяўчыну. Нават не пабыўшы ў яе дома, на рабоце, ён зрабіў дзяўчыне прапанову выйсці за яго замуж. Відаць, і дзяўчыне падабаўся Н., яна, не задумваючыся, згадзілася на яго прапанову. Малады муж нічога не заўважаў вакол. Раніцой яны ўдваіх рыхтавалі снеданне, потым ішлі на работу.

Аднойчы муж павінен быў схадзіць у адну ўстанову сярод рабочага дня. Праходзячы міма базара, ён падумаў, што не дрэнна было-б купіць для жонкі крымскія яблыкі, якія яна вельмі любіла. Ужо выходзячы з базара, Н. наткнуўся на натоўп, сярод якога стаяў міліцыянер і трымаў яго жонку. Толькі ў міліцыі Н. даведаўся, што яго жонка нідзе не працавала, а займалася спекуляцыяй і дробнымі кражамі на базары.

Выпадак, вядома, выключны, але як часта маладыя людзі пачынаюць сумеснае жыццё, не ведаючы адзін другога, а потым высвятляецца, што яны не маюць нічога агульнага.

З кожным годам умацоўваецца наша савецкая сям'я. Зніклі назаўсёды дзікія сцэны сямейных сварак з пабоямі, з калецтвам. Няма тых хамскіх, пагардлівых адносін да жанчыны-маці, якія былі некалі ў старым грамадстве. І калі яшчэ здараюцца выпадкі распаду сем'яў, дык яны ні ў якім выпадку не характарызуюць нашу соцыялістычную мараль. Сем'і, якія распадаюцца,—маленькія крупінкі сярод акіяна здаровых, моцных сем'яў. І ўсё-ж у нас не павінна быць такіх выпадкаў распаду сем'яў. Рэцэпт, тут, як ні дзіўна, ёсць: гэта сур'ёзныя адносіны маладых людзей да кахання, да шлюбу, да сям'і; чулыя адносіны да лёсу маладых сем'яў з боку грамадскіх арганізацый, знаёмых, сяброў.

А. АСІПЕНКА.

## ШКОЛА СТАРШЫНЬ КАЛГАСАЎ

Больш 350 кіруючых работнікаў калгасаў і перадавікоў сельскай гаспадаркі вучыцца ў Магілёўскай сярэдняй сельскагаспадарчай школе па падрыхтоўцы старшынь калгасаў. Школа рыхтуе высокакультурных, адукаваных кіраўнікоў калгасаў. Тут навучэнцам створаны ўсе ўмовы для паспяховага вывучэння перадавых метадаў вядзення гаспадаркі.

На здымках: злева — навучэнцы II курса звеннявая калгаса імя Маленкова Горацкага раёна Ларыса Церахова і брыгадзір калгаса імя Сталіна Магілёўскага раёна Марыя Пагужэльская рыхтуюцца да заняткаў у кабінеце раслінаводства; справа — група навучэнцаў за вывучэннем машын для апрацоўкі глебы; унізе — навучэнцы на лабараторных занятках па хіміі.

Фота Ч. Мезіна. (Фотахроніка БЕЛТА.)









# Завіруха

**Іван ШАМЯКІН**

**Апавяданне**

Мал. Я. Ціхановіча.

На дварэ разгулялася завіруха. Вецер скуголіў, свістаў, біўся ў сцяну, у вокны. У шыбы акна шкрабаліся галіны вярбы, быццам акалелыя, прасіліся ў хату, у цяпло, да людзей. Ды ад цяпла іх адгароджвала не толькі шыба, але і тоўсты пласт інею на ёй з лёдавымі нарастамі і глыбокімі шчылінамі па краях, каля рам. Толькі самая верхняя шыба чамусьці адтала пасярэдзіне, і праз гэтую адталіну, круглую і чорную, як вока незвычайнай жывёліны, глядзела ў хату раз'юшаная ноч.

Валя доўга стаяла перад акном, не зводзячы заварожанага позірку з чорнай адталіны, і слухала дзіўныя і страшныя гукі завірухі. Ёй захацелася глянуць праз гэтую шчыліну на вуліцу, убачыць вярбу, агеньчыкі ў вокнах хат. Яна стала на ўслон, прытулілася вокам да адталіны, але нічога не ўбачыла, акрамя нейкай белаватай муці. Нават вярбы не было відаць, хоць галіна шкрабала шыбу зусім блізка, каля яе твару. І яшчэ Валя чула, як па акне, па сценах няроўна сыпаўся сухі снег, быццам нехта кідаў яго то вялізнымі лапатамі, то жменямі. Праз нейкую нябачную шчылінку паміж шыбай і рамай прабіваўся струменьчык снегу, пякуча халодны, непрыемны, і раставаў у яе на скроні. Раптам вецер шугануў з новай сілай і дзіка завыў у коміне. Ляпнула цяжкая юшка, адчыніліся дзверцы грубкі.

Валя спалохана саскочыла з услона. У грубцы ў попеле разгараліся вугольчыкі. Яна праверыла юшку, падыйшла да стала, дзе даўно стыла амаль някранутая вячэра. Ёй не хацелася есці. Яна наліла з самавара кіпятку, вярнулася да грубкі з шклянкай у руцэ і прытулілася плячамі да гарачай цэглы. У хаце было холадна, над шклянкай падымалася пара. Гаспадыня папярэджвала, што ў ветраныя дні хату выдзьмувае. Але ніколі за зіму не было яшчэ гэткага шалёнага ветру, і ніколі ў хаце не было так холадна і няўтульна, як сёння. Валя шчыльней нацягнула цёплую хустку, прыслухалася. Выццё і свіст завірухі за акном і ў коміне яшчэ больш падкрэслівалі пустэчу і цішыню, якая панавала ў пакоі. Ні аднаго жывога гуку. Толькі ў другой палавіне, дзе спяць на печы гаспадыня і яе дачка — вучаніца, размашыста і глуха стукаюць ходзікі: як-так, як-так... А тут, збоку, за занавескай, каля яе ложка, надзвычай хутка, быццам нямаведама куды спяшаецца, бяжыць будзільнік: цік-цік-цік-цік-цік. Сумна. Крыўдна, горка, шкада сябе... Чаму ў яе не так, як у іншых? Чаму ніколі не здзяйсняюцца яе лепшыя, прыгожыя мары? Можа, у яе характар гэтакі? Але ў такі вар'яцкі дзень, як сёння, ні адзін характар не вытрымаў-бы. Быў-жа ў яе з раніцы звычайны вясёлы настрой. Яна жартавала з гаспадыняй, са старшынёй калгаса, з калгаснікамі. Пасля абеду ёй захацелася схадзіць у дальнюю брыгаду — на пасёлак Вадапой, праверыць, як там сартыруюць насенне ільну. У гэтай брыгадзе вядомыя ільнаводы. І ўвогуле брыгада — лепшая ў калгасе. Валя заўсёды з задавальненнем хадзіла туды. Брыгадзірам там быў Пятро Праснак, малады мужчына, год трыццаці, весялун, жартаўнік, дбайны і клапатлівы гаспадар. Ён акуратна наведваў агравучобу, знаходзіў час пачытаць брашуркі па вырошчванню тых культур, якія цікавілі яго, і нядаўна паабяцаў на сходзе паказаць у сваёй брыгадзе «цуды па кукурузе», якую раней тут ніколі не сеялі. Жонка яго Марына — вядомая на ўвесь раён званнявая па ільну — была такая-ж вясёлая, як і муж. Маці двух дзяцей, яна выглядала яшчэ маладой на свае гады: гэткая вяртлявая дзяўчынка — рагатуха, якую, здавалася, усё ў жыцці радуе і цешыць — муж, дзеці, праца, добрыя людзі, трапныя словы і песні. Яна ў першы-ж дзень надзвычай прыветліва сустрэла Валю і сілком зацягнула да сябе ў хату. Пачаставала смачным абедам, а пасля проста так, без усялякіх бабскіх забабонаў, не ў прыклад некаторым іншым жанчынам, сказала мужу:

— Запражы ты, Пеця, «Перуна» да падвязі Валянціну Паўлаўну. Сорамна вам будзе ўсім, калі аграном наш пехатою будзе хадзіць па справах. — І звярнулася да Валі: — А вы не саромейцеся, вы ад іх больш патрабуйце. Іх трэба во як трымаць! — і яна паказала свой маленькі кулак.

— Ух, страшна як! — прытворна жахнуўся Пятро і зарагатаў. Валя таксама засмяялася: вельмі-ж непадобна было, што такога чалаве-

ка, як Пятро Аляксеевіч, трэба трымаць у кулаку. Добра адчула сябе Валя ў гэтай шчырай сям'і, нават недзе ў глыбіні дзявочай душы пазайздросціла такому іх простаму, чалавечаму шчасцю.

Праз некалькі хвілін, за якія Марына паспела выпытаць у Валі яе біяграфію з усімі падрабязнасцямі, Пятро падагнаў да хаты варанога стаенніка, — такога прыгажуна, што толькі любавацца. Конь быў запрэжаны ў маленькі размаляваны вазок, у якім маглі змясціцца ўсяго два чалавекі. Таму і селі побач — яна, Валя, і Пятро; Валі ажно няёмка было ад такой блізкасці. А Марына, смеючыся, хутала коўдрай яе ногі.

— Вось так, а то чаравікі гэтыя вашы не вельмі грэюць. У іх толькі ў горадзе хадзіць. Хочаце, я вам валёнкі куплю? І грошы не адразу — калі разбагацееце.

Пасля Валя амаль ніколі не мінала іх гасціннай хаты: вельмі падабалася ёй гэтая сям'я — і самі гаспадары, і іх дзеці, і парадак, які панаваў у хаце, і смачныя абеды, і агранамічныя размовы, у якіх яна перадавала ім свае веды па тэорыі, а яны ёй — сваю практыку. І ніколі яна не ездзіла туды на сваім лянівым нязграбным коніку, якога ёй выдзеліў для раз'ездаў старшыня. Хадзіла пехатою, бо ведала: назад яе адвязуць на цудоўным стаенніку. А пасля працоўнага дня гэтак прыемна бывае праехаць у ёмкіх санках, на добрым коні! Пракаціцца так, каб марозны вецер свістаў каля вушэй, спявалі палазы і ільдзінкі ляцелі з-пад конскіх капытоў!

Таму Валя і пайшла ў трэцюю брыгаду пасля абеду, ужо амаль пад вечар, упэўненая, што назад абавязкова прыедзе. Тым больш, што на вечар назначаліся заняткі аграгуртка, і з брыгады павінны былі прыехаць на заняткі Праснак і яшчэ некалькі чалавек. Яна адразу зайшла да брыгадзіра. Марына была ў хаце адна, сядзела за сталом і шыла на ручной швейнай машыне нешта са стракатага паркалю, магчыма, для дачкі. На прывітанне Валі яна толькі кіўнула галавой і пачала незвычайна хутка, яўна са злосцю, круціць ручку машыны. Валя адчула, што здарылася нешта благое, — не так яе звычайна сустракалі тут! — і страшэнна спалохалася. (Пасля яна доўга не магла ўспомніць свой спалох без агіднасці і знявагі да самой сябе.) Яна нясмела села на край табурэта, як незапрошаны госць, і, калі стракатанне машыны сціхла, чужым, ахрыплым голасам спытала:

— А дзе Пятро Аляксеевіч?

— Чарцей слепіць ваш Пятро Аляксеевіч, — злосна адказала Марына і зноў пачала круціць машыну. Валя зусім разгубілася і не ведала, што рабіць, што яшчэ сказаць: здагадкі, адна страшнейшая за другую, апанавалі яе. Марына, мабыць, зразумела яе становішча і, пакінуўшы шыць, больш лагодна растлумачыла:

— П'юць, чэрці ненажэрныя, трэці дзень без перапынку.

— Што п'юць? — наіўна спытала Валя.

— Што п'юць! Гарэлку ці самагонку — ліха іх ведае, што яны там жлукцяць...

— І Пятро Аляксеевіч?

— Пятро Аляксеевіч шоўкавы, пакуль у кампанію не зацягнуць. А за кампанію ён гатоў павесіцца, як той цыган.

— Але з якой прычыны?

— П'юць? Пазаўчора ў Гайку «фэст» быў. І хто толькі выдумаў гэтыя дурныя «фэсты»! Вось і не могуць спыніцца... Загулялі...

— А работа стаіць?

— Няўжо-ж бяжыць, калі амаль усе мужчыны там, — Марына кіўнула некуды за акно.

— А вы — што? Чаму вы маўчыце? — раптам дайшоўшы да сэнсу ўсяго, што тут адбываецца, абурылася Валя. — Чаму вы не выцягнеце Пятра?

— О-хо, — гаротна ўздыхнула Марына, страціўшы свой ваяўнічы і злосны настрой. — Ахрыпла вось, бачыце... І крычала, і плакала... Пагаварыце з імі цяпер, яны вам нагавораць. — І зноў узлавалася: — Ну іх к ліху! У мяне таксама гонар ёсць. Каб я кланялася перад іх п'янымі мордамі... Пайшлі яны... Працверазіцца — доўга будзе помніць...

Валя рашуча паднялася.

— Дзе яны? Я пагавару з імі!

— Ідзіце, пагаварыце, — Марына іранічна сажмурылася, але, убачыўшы, што аграном сур'ёзна намерана ісці, спыніла дзяўчыну, падыйшла, абняла за плечы. — Не ідзіце. Не трэба вам ісці. Хіба яны што зразумеюць цяпер? Могуць нямаведама чаго нагаварыць... І вас абразяць, і самім пасля сорамна ў вочы будзе глянуць...

Кепска адчула сябе Валя: зразумеўшы, што ісці бескарысна, яна ўзлавалася на сябе, на Марыну за пасіўнасць, за нездатнасць да подзвігу, нават такога мізэрнага; у дадатак было яшчэ такое адчуванне, быццам абразілі яе лепшыя пачуцці, яе надзею. Валя адмовілася ад прапановы Марыны заначаваць і неўзабаве развіталася з ёю. Калі яна выйшла, ужо змерклася, і з захаду, дзе схавалася сонца (увесь дзень быў ясны, марозны), плыла хмара. Падымаўся вецер. Яна ішла з неадчэпнай думкай, якая, здавалася, рабіла ёй не толькі душэўны, але і фізічны боль — разбалелася галава, спіна, ногі... Чаму? Чаму так атрымоўваецца? Чаму неблагі чалавек, лепшы брыгадзір, раптам так запіў? І ад гэтага стаіць работа, пакутуюць блізкія людзі. Вось з чым трэба змагацца, думала яна, змагацца бязлітасна, штодзённа. Але як, якім чынам? У сельпоўскай чайной, што ў цэнтры сельсовета пры шашы, забаранілі прадаваць гарэлку на разліў. Пасля гэтага ўсе шаферы, усе праезджыя пачалі бегаць у сельмаг, і старшыня сельпо задаволена пацірае рукі і выхваляецца, што продаж гарэлкі па сельпо вырас пасля забароны амаль у два разы. Колькі дзён назад Валя смяялася разам з іншымі, калі пра гэта расказвалі ў калгаснай канцылярыі, а цяпер адчула, як гэта прыкра і сумна — не смяяцца трэба, а пратэставаць, абурацца, і ўвогуле не так трэба змагацца з п'янствам. Але, зноў-жа, як?

Яна ўяўляла, як яна паглядзіць на Праснака пры наступнай сустрэчы і шукала словы, якія павінна сказаць яму, — такія словы, якія прымусілі-б яго адчуць усю ганебнасць свайго ўчынку і згарэць ад сораму.

Валя не прайшла і трэцяй часткі дарогі, як нечакана пачалася вось гэтая завіруха. Снег сляпіў вочы, залепліваў твар, раставаў і струменямі ледзяной вады цёк за каўнер; снег набіваўся ў валёнкі. А вецер быў такі моцны, што, здавалася, яна не перадужвае яго, і ногі яе коўзаюць на адным месцы па сухім, скрыпучым снезе, які цячэ каля ног, замятае дарогу. Такое часам бывае ў сне — бяжыш і не можаш скрануцца з месца. Хутка зусім сцямнела — і Валі ў другі раз за дзень зрабілася страшна: яна баялася збіцца з дарогі, заблудзіць у гэтай завірушнай цемры... Што тады будзе з ёй!? Не, яна не думала пра небяспеку, якая пагражала ёй. Старалася не думаць. Яна турбавалася, што па яе віне, з-за яе неразумнага і непатрэбнага паходу сарвецца агравучоба. Прыедуць людзі з іншых брыгад, а яна... Валя лаяла сябе і ў той-жа час ёй да слёз было шкада сябе, адзінокую сярод поля і завірухі. Больш двух гадзін ішла яна чатыры кіло-





метры і так змарылася, што каб яшчэ кілометр, здаецца, не дайшла-б. Але ўвайшоўшы, нарэшце, у вёску, яна мінула сваю кватэру і накіравалася да канцылярыі. Па вёсцы ісці было лягчэй — зацішна. Якое-ж было яе расчараванне, злосць і крыўда, калі яна ўбачыла, што ў канцылярыі цёмна! Яна падыйшла, памацала замок і невядома колькі часу стаяла каля дзвярэй, змораная, спустошаная...

Міма прабеглі дзве дзяўчыны, зацікавіліся — хто стаіць, пазналі і паведамілі:

— Заняткаў не будзе, Валянціна Паўлаўна. Старшыня распусціў людзей, сказаў — вас няма, — і, закрыўшы твары хусткамі ад ветру і снегу, дзяўчаты чамусьці засмяяліся і пабеглі далей.

Схамянуўшыся, адчуўшы ў сабе сілу і злосць, яна рашуча пайшла да старшыні. Звычайна яна пазбягала заходзіць да яго на кватэру: жонка старшыні сустракала яе нявеліва і за размовай яе з мужам сачыла з варожай падазронасцю. Гэта абражала Валю. Але цяпер ёй было не да гэтага. Яна хацела пагутарыць са старшынёй па шчырасці. Ёй даўно не падабаліся яго адносіны да вучобы. Ён не то што ставіўся да яе абыякава, а як-бы баяўся — усё адкладваў кожныя заняткі, адцягваў і вось двойчы ўжо сарваў. І хоць ён паважаны і вопытны гаспадар, але Валя ўсёадно не можа яму дараваць зняваті да таго, што яна асабіста лічыла асновай будучых поспехаў у барацьбе за ўраджай.

З парога, не прывітаўшыся, яна ціха, але даволі патрабавальна спытала:

— Навошта вы сарвалі заняткі, Фядос Кузьміч?

З бакоўкі выглянула жонка і заняла ў дзвярах насцярожана-баявую пазіцыю. А сам Фядос Кузьміч замітусіўся:

— Не інакш пехатою ішла, а? Ай-яй! Уся мокрая. Распранайся хутчэй, я табе чарку налью, а то так і злегчы можна... Ішла? Пехатой? Ай-яй!

— Не, вы мне скажыце, навошта вы сарвалі заняткі?

— Ды ты глядзі, якое надвор'е! Хіба да заняткаў? Страшна на вуліцу выйсці. Вось радыё гаварыла і змоўкла, не інакш правады парвала. Ды і не думаў я, што ты вернешся ў такую завею... І дарэмна ішла, дарэмна... Вось распранайся хутчэй... Садзіся.

Валя больш не магла стрымацца і амаль закрычала:

— Што вы мне зубы загаварваеце! Вы-ж не пачакалі і поўгадзіны! Надвор'е! А ў мінулы раз?.. Вяселле перашкодзіла! Таксама знайшлі прычыну! Вы проста не хочаце, каб людзі вучыліся. Вы не разумееце!.. Вы... Я ў райком пайду!..

Жонка старшыні бліснула ў бок мужа гнеўным позіркам: «Вось да чаго ты дажыўся! Яна ўжо крычыць на цябе, яна мае права крычаць»...

Магчыма, убачыўшы гэты позірк, Фядос Кузьміч дастаў акуляры, паважна начапіў іх і раптам, зусім нечакана, сурова і гучна спытаў:

— А чаму вы крычыцё на мяне, міласцівая сударыня? — Валі расказвалі, што ў злосці Фядос Кузьміч часта ўжываў гэтыя словы і таму за ім моцна замацавалася мянушка «міласцівы сударь», якую Валя чула амаль штодзень, але ад самога яго слоў гэтых не чула яшчэ ні разу. Раней яна думала, што калі здарыцца пачуць, то яна напэўна не стрымаецца, каб не зарагатаць. Але цяпер словы гэтыя не толькі не рассмяшылі, але яшчэ больш чамусьці абразілі. А Фядос Кузьміч пасля паўзы зноў гэтак-жа сурова спытаў:

— Якое права вы маеце крычаць на мяне? Я ў два разы старэйшы за вас.

— У тры! — падказала жонка, невядома з якой мэтай пераўвялічыўшы: Валі было дваццаць тры гады, Фядосу Кузьмічу — пяцьдзесят тры.

— Я лепш за вас ведаю цану вучобы і прашу мне сцэн не рабіць... Вось так! Прышлі ў хату — будзьце госцем!

Салёны клубок, які сціскаў у горле яшчэ тады, калі яна ўвайшла ў хату, і нават раней,— калі ўбачыла цёмныя вокны канцылярыі, усё распухаў, гарачэў і салянеў, давіў... Яна адчула, што вось-вось пырснуць слёзы і, каб не заплакаць тут, перад імі, павярнулася і выбегла з хаты. Заплакала на вуліцы пад выццё завірухі, дзе яе ніхто не бачыў і не чуў.

... Валя так задумалася, што зусім забылася, што трымае ў руцэ шклянку з недапітым чаем, і ўпусціла яе. Шклянка разбілася на дробныя кавалкі. Тады Валя адчула, што шчокі яе мокрыя, і ўзлавалася на сябе і за гэтую сваю слабасць, і за слёзы на вуліцы, і за страхі ў хаце Праснака і ў полі — за ўсё адразу. «Глупства гэта ўсё. Што гэта я раскісла, як дзяўчынка? Я-ж рыхтавала сябе да горшага»... Сапраўды, яшчэ ў акадэміі яна думала часам, як трапіць у калгас, дзе старшыня кансерватар, п'яніца, і пачне з ім бязлітасную барацьбу не на жыццё, а на смерць. Да сустрэчы з такім старшынёй яна рыхтавала сябе. А Фядос Кузьміч — не такі. Ён хоць і з дзівацтвамі і крыху старамодны нейкі, але гаспадар добры, з ім працаваць можна. «Ды што-ж гэта ты, таварыш аграном, раскісла ад першых няўдач і расчараванняў? Наперадзе, можа, яшчэ больш цяжкасцей». Валя сабрала рэшткі шклянкі, выцерла падлогу.

А завіруха ўсё мацнела: страшней выў у коміне вецер, мацней дрыжала шыба і больш настойліва шкрабала галінка вярбы. І ў хаце рабілася ўсё халадней і халадней.

Валя падцягнула да грубкі стол, табурэт і села каля цяпла, разгарнула свежыя газеты. На першай старонцы «Комсомольской правды» — вялікі здымак: баль моладзі, студэнтаў у Георгіеўскай зале ў Крэмлі. Яна ні разу не была там, але ў гэты момант, як ніколі раней, вельмі выразна ўявіла гэтую незвычайную па свайму харастру залу, залітую святлом дзесяткаў казачных люстраў. Яна нават раптам пачула гукі вясёлай танцавальнай музыкі... Вось яна плыве, разліваецца, рытмічна стукаюць сотні чаравікаў... Яна, Валя, таксама любіла патанцаваць, калі была студэнткай. Але калі гэта было!..

Валя перавяла позірк на чорны круг рэпрадуктара на сцяне, паміж вокнамі. І радыё сёння маўчыць, мабыць, сапраўды вецер парваў правады. Яна не можа адарвацца ад гэтага чорнага круга, але чым даўжэй глядзіць на яго, тым мацней сціскаецца сэрца ад суму і адзіноты. Дзесяць гадзін — і такая пустэча. Хоць-бы пагутарыць з кім!..

Не, усё-такі ёй не шанцуе. Яе ніколі не цягнула ў горад, інакш яна не пайшла-б вучыцца на агранома. Яна нарадзілася, вырасла ў вёсцы, і працаваць ёй хацелася ў вёсцы, на зямлі. Але яна ўяўляла вёску, дзе ёй давядзецца працаваць, такой-жа, як і яе родная вёска: з школай-дзесяцігодкай, у якой чалавек трыццаць настаўніцкага калектыву — маладых, вясёлых людзей, з клубам, бальніцай... І вось яна таксама ўвальецца ў гэты дружны калектыў сельскай інтэлігенцыі, яна — аграном, маладая дзяўчына, энергічная, жыццерадасная... У іх вёсцы інтэлігенцыя прыгожа і весела жыла — спектаклі, гурткі, цікавыя вечары ў клубе. Валя, калі гаварыць шчыра, зайздросціла іх жыццю, і ў старэйшых класах школы сама ўключылася ў яго, гэтае жыццё, і яно прывабіла яе яшчэ больш: у ім ёсць свая цудоўная рамантыка! Аб такім жыцці яна марыла ўсе гады вучобы. А тут? Старшыня — «міласцівы сударь», настаўнікаў — чацвёра, бо школа пачатковая, і ўсе яны пажылыя, сямейныя людзі, у загадчыка — шасцёра дзяцей. Якія яны ёй сябры? І клуба няма, толькі яшчэ будуецца, адны сцены цагляныя ўзвышаюцца, занесеныя снегам. Моладзь збіраецца на вечарынкі па хатах. Валя саромеецца хадзіць на гэтыя вечарынкі і сядзіць вось так доўгімі вечарамі. Самыя радасныя дні ў яе, калі агравучоба ці пасяджэнне праўлення, калі з'язджаюцца людзі з усяго калгаса. Праўда, ёсць тут і дзесяцігодка, і пошта, і бальніца, і клуб, хоць невялічкі, але ўтульны, дзе, гавораць, штовечар збіраецца моладзь. Але ўсё гэта — за пяць кіламетраў, у вёсцы Сябровічы, дзе цэнтр сельсовета. І хто гэта так недарэчна прыдумаў — цэнтр сельсовета ў адной вёсцы, а калгаса — у другой? Валя зразумела гэтую недарэчнасць адразу, і хацела стаць на кватэру там, у Сябровічах, але дырэктар МТС і старшыня калгаса запратэставалі. Называецца — паклапаціліся пра маладога спецыяліста! Думаюць, як ім, адпрацаваў — і да жонак, да сямей.

А як-бы добра было быць зараз там! Школа, клуб, бальніца... А ў бальніцы ўрач. Андрэй Казіміравіч Грушыцкі... Упершыню за вечар твар Валі асвяціла ўсмешка. А што, хіба яна не мае права прызнацца самой сабе, што малады ўрач падабаецца ёй? Праўда, яны не вельмі яшчэ каб блізка знаёмыя. Сустракаліся разоў колькі на розных пасяджэннях і сходах. Але аднойчы — гэта было з месяц назад — калі яна ішла з Сябровіч, ён сустрэў яе за вёскай, на шашы (хіба не можа быць, што ён знарок чакаў!), і нечакана прапанаваў:

— Хочаце, я вас праведу? Не пярэчыце?

Валя, безумоўна, не пярэчыла.

— Я люблю пагуляць адвячоркам, — тлумачыў ён сваё з'яўленне, — але аднаму сумна.

Надзвычай кароткімі здаліся Валі ў той дзень пяць кіламетраў ад цэнтра сельсовета да цэнтра калгаса. Каб яны заўсёды былі такія кароткія, Валя, пэўна, не адчувала-б у доўгія зімовыя вечары адзіноты. Андрэй Казіміравіч, відаць, не вельмі красамоўны і не надта напрактыкаваны ў размовах з дзяўчата-

мі; усю дарогу гаварыў на «сумныя» тэмы — усё больш пра сваю медыцыну, пра новыя метады лячэння з дапамогай атамнай энергіі, пра аперацыі сэрца. Але Валі, хоць пра ўсё гэта яна чула ўжо і сама чытала, слухаць яго было вельмі прыемна. Шкада толькі, што размова іх не мае працягу: больш яны не сустракаліся адзін-на-адзін. Магчыма, што Андрэй Казіміравіч расчараваўся ў ёй. Не трэба было ёй так заварожана слухаць і маўчаць! Яна-ж умее быць вясёлай субяседніцай!

Валя ўздыхнула: «Ох, жыццё, жыццё! Калі не шанцуе, дык нічога не дапамагае — ні спрыт, ні розум».

Яна адсунула газеты і дастала з шуфляды стала кнігу, разгарнула. Бібліятэка пры хаце-чытальні не надта багатая, і прыходзіцца браць тыя кнігі, якія яна даўно прачытала і нават не адзін раз. Але ўсёроўна прыемна чытаць такія кніжкі — на нейкі час забываешся пра ўсе свае няўдачы, непрыемнасці і пачынаеш жыць жыццём герояў! Хороша гэта!

«Даўно я чакала цябе», — быццам сказала гэтая спалоханая і шчаслівая дзяўчына сваёй ўсмешкай, якая выбліснула з-за гатовых слёз, і падняла сваю руку на плячо князя Андрэя». Зноў баль... Зноў музыка... Яна гучыць у вушах, некуды кліча, напаўняе неасэнсаванымі жаданнямі, заварожвае... А вецер свішча, б'е снегам у шчаку. Чаму толькі ў адну шчаку? І снег не халодны, а цёплы, спачатку калючы, а потым усё мякчэйшы і мякчэйшы. Гудзе лес, гнуткія сосны схіляюць свае вершаліны да самай зямлі, утвараючы нейкія дзіўныя аркі. Не, гэта не лес гудзе, гэта — зноў музыка. І не сосны ўтварылі аркі — гэта нейкая казачная зала. Кружацца пары, знаёмыя і незнаёмыя маладыя людзі. Сярод іх Валя раптам бачыць старшыню з жонкай: старыя, нязграбныя, яны ўсіх штурхаюць, наступаюць на ногі. Валі хочацца засмяяцца з іх, але няма часу — яна пільна ўзіраецца ў бясконцую прастору дзіўнай залы, шукае вачамі яго, Андрэя, ён абавязкова павінен прыйсці сюды. Кружацца пары, сыплецца снег... А яго ўсё няма... І раптам нехта ласкава бярэ яе за рукі, вядзе і пачынае кружыць у віхуры танца. Яна адчувае, што гэта ён, але не можа глянуць яму ў твар, не можа падняць вачэй, нехта перашкаджае ёй глянуць на яго. Хто гэта? А-а!.. Вунь там збоку стаяць старшыня і дырэктар МТС і дакорліва ківаюць ёй пальцамі. Але яна не палохаецца іх, ёй робіцца смешна і весела. Цяпер, на злосць ім, яна гляне на Андрэя. Яна падымае галаву і бачыць: Андрэй, у кажуху, у шапцы, хороша так усміхаецца ёй і ласкава кажа:

— Спі. Спі.

І — яна засынае...

... Валя прачнулася: ёй здалося, што заскрыпелі дзверы. Яна падняла галаву — усё па-ранейшаму: гарыць, ледзь чутна патрэскваючы, лямпа, за акном шалее завіруха. Некалькі лістоў «Вайны і міру», на якіх яна спала, скамечаныя. А ў яе ные шчака, самлела шыя, баляць ногі. Але яна ўспамінае свой дзіўны, прыемны сон — і ўсміхаецца. Затым разгладжвае лісты кнігі, хуценька распранаецца, тушыць лямпу і нырае ў ледзяную пасцель, накрываецца коўдрай з галавой, каб сагрэцца.

Раніцой Валя прачнулася, як ніколі позна, калі добра ўжо развіднела. Праз шыбы з тоўстым напластаваннем інею працэджвалася дзённае святло, і ў хаце быў нейкі прыемна-ўрачысты поўзмрок. У грубцы весела трашчалі дровы. Будзільнік стаяў — яна забылася яго завесці. Не зважаючы на холад, хутка саскочыла з цёплага ложка, выйшла на кухню. Гаспадыня поркалася каля печы, у якой зырка палалі дровы. Дачка яе абірала бульбу.

— Чаму-ж вы мяне не разбудзілі, Кацярына Васільеўна?..

— А пашкадавала, — гаспадыня весела ўсміхнулася і хітравата падміргнула вокам. — Відаць-жа позна сядзелі?

— Ды не, я ў дзесяць гадзін заснула. Над кнігай.

— Ды я бачыла, як ты спала, палажыўшы галоўку на стол. А потым?

— Што потым?

— Не хітры, Валечка, — пагразіла ёй пальцам гаспадыня.

Валя нічога не разумела і толькі паціснула плячамі. А калі яна пачала ўмывацца, гаспадыня, нібы між іншым, сказала:

— А Андрэй Казіміравіч чакаў-чакаў, пакуль ты прачнешся.

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

## Каб я знала

Раніцою ў сад я выйшла,
І кіўнула галінкаю мне
Набрынялая сокам вішня,
Ціха тужачы аб вясне.

Нібы ведае, што сама я
Разам з ёю чакаю вясны...
Вішня-вішанька дарагая,
Скора збудуцца твае сны.

Дачакаешся белых кветак
І шумлівай зялёнай ліствы...
Каб я знала, што прыдзе гэтак
Мая радасць у дзень веснавы.

Каб я знала, што ясным ранкам
Да майго ён падыйдзе акна,
Што парой вечаровай з гулянкі
Больш не буду прыходзіць адна.

Не тужыла-б я, вішанька-вішня,
Толькі-б клікала сэрцам той час...
Не сумуй, не трывожся залішне —
Скора прыдзе вясна да нас.

## Сустрэча

Гудзе камбайн, і ў цішыні
Гул расплываецца шырока.
А дзесь ў блакітнай вышыні
Чуваць другі спакойны рокат.
І ён усё бліжэй, бліжэй,
Усё званчэй яго раскаты.
Не зводзіць камбайнёр вачэй
З машыны срэбна-белаватай.
Яна-ж зрабіла паварот,
Ляціць якраз яму насустрач.
І вось кіўнуў крылом пілот,
Яно успыхнула, як люстра.
І камбайнёр ягоны знак —
Узмах крылом кароткі гэты —
Не мог і зразумець інакш,
Як слова шчырага прывету.
«Ты, брат, і малаці, і жні,
І насыпай засекі свірнаў,
Мне-ж — лётаць тут, у вышыні,
Ды вартаваць спакой твой мірны...»
Глядзіць хлапчына на усход
З усмешкай добраю, сяброўскай,
Дзе ўжо знікае самалёт
За цёмнаю лясной палоскай.

Валя застыла з поўным ротам зубнога парашку, сэрца яе трывожна ёкнула; яна баялася павярнуцца, глянуць на гаспадыню — а раптам які-небудзь недарэчны жарт?

— Які Андрэй Казіміравіч?

— Як — які? Доктар наш.

— Доктар? — Валя хутка павярнулася.

— Эх, бог мой! — пляснула мокрымі далонямі гаспадыня. — Да ты і праўда не бачыла яго? Значыцца, ён не разбудзіў цябе? Вось-жа дзівак-чалавек! А я, калі ён зайшоў, заглянула да цябе, убачыла, што ты спіш, ды і кажу яму: зайдзі, ды толькі не спалохай... А сама — на печ.

— Нічога не разумею, цёця Каця!



— Вось-жа нездагадлівая якая! Ён учора цэлы дзень у Сойкаў быў, Надзі вельмі цяжка было. А калі ўсё добра скончылася, сынок у яе, доктару рабіць больш няма чаго. Вось ён і пайшоў... Кажа, да настаўніка ішоў, ды завіруха такая, што надумаў зайсці бліжэй... На аганёк, кажа.

— На аганёк? — Валя зноў засмяялася і паімкнулася да гаспадыні: ёй хацелася пацалаваць гэтую добрую, шчырую жанчыну, і яна, мабыць, зрабіла-б гэта, каб не яе дачка, вучаніца шостага класа, якая чамусьці таксама раптам ціха хіхікнула.

Хутка памыўшыся і выціраючыся калючым ручніком, Валя весела сказала дзяўчынцы:

— Цудоўна мы жывем з табой, Манька!

Сапраўды, жыццё цяпер здавалася ёй надзвычай прыгожым і цікавым, а ўсе ўчарашнія страхі, расчараванні, слёзы, смутак і пачуцці адзіноты — нікчэмнымі, дробязнымі і проста недарэчнымі; пра ўсё гэта назат сорамна ўспамінаць.

— Хутчэй снедаць, цёця Каця! — папрасіла яна.

— Куды ты так спяшаешся?

— Паеду.

— Куды ты паедзеш? Паглядзі, што робіцца на двары! Дзвярэй нельга адчыніць. Добры гаспадар сабаку з двара не паганіць у такі дзень.

— Паеду ў Сябровічы.

— Ён сам прыедзе!

— Што вы! Што мне да яго! Мне проста трэба праводзіць заняткі, агравучобу. Мы вырашылі, каб людзям не ездзіць, праводзіць заняткі тут і там.

Ніхто нічога не вырашаў, і думка гэтая з'явілася ў яе зусім нечакана, у тую хвіліну — для апраўдання сваёй паездкі ў такое надвор'е. Але ідэя гэтая ёй вельмі спадабалася. Як гэта яна не дадумалася раней! Іменна так: праводзіць заняткі і тут і там, у Сябровічах. Тады яшчэ больш цікавай, змястоўнай і радаснай стане яе праца!

Спяшаючыся, Валя, аднак, даўжэй звычайнага стаяла перад люстэркам, заплятаючы свае доўгія косы.

# ДАРАГІЯ ГОСЦІ



На XVIII з'ездзе комсамола Беларусі адной з самых незабыўных падзей было пасяджэнне, у якім прынялі ўдзел першыя пасланцы Мінска на цалінныя землі. Дэлегаты звярнуліся да іх са словамі прывітання і сяброўскай парады. Тыя-ж, хто ехаў будаваць новае жыццё, далі ўрачыстае абяцанне з'езду быць вартымі высокага звання комсамольцаў.

З таго часу прайшло каля года. Нядаўна пасланцы на цаліну зноў прыехалі ў Мінск, каб правесці свой адпачынак сярод родных. Комсамольцы з чэсцю стрымалі сваё абяцанне і таму цяпер, на пабыўцы, іх сустракаюць як самых дарагіх гасцей.

Гэты фотанарыс расказвае аб двух днях адпачынку Галіны Шалковіч, Галіны Астаповіч і Альберта Шарамета — трактарыстаў соўгаса «Дзіеўскі» Кустанайскай вобласці.

**Фотанарыс О. КНОРЫНГА і В. ПАНАМАРОВА.**

Галіна Шалковіч і Галіна Астаповіч да паездкі на цаліну працавалі ў Беларускім радыё: першая — тэхнічным сакратаром, другая — машыністкай. Іх называюць там цяпер — «нашы Галі».

Перш, чым убачыць іх, нам давялося пачуць іх галасы: карэспандэнт «Апошніх паведамленняў» ездзіў у Казахстан, каб арганізаваць радыёперадачу аб навасёлах-беларусах, і не мог, зразумела, не запісаць «сваіх Галяў». Мы праслухалі жыццерадасны расказ дзяўчат, але ўявіць сабе іх па адным толькі голасу, вядома, не змаглі.

І вось праз месяц пасля такога знаёмства мы ўбачылі сяброўак на Круглай плошчы беларускай сталіцы. Разам з Альбертам Шараметам аглядалі яны Мінск і захапляліся тымі раднымі зменамі, якія адбыліся ў горадзе за час іх адсутнасці. Яшчэ зусім нядаўна яны дакладна маглі растлумачыць прыезджаму чалавеку, дзе і што збудавана ці будуецца. Цяпер-жа самі са здзіўленнем пыталіся: «А гэта што за будынак?..», «Як назвалі вось гэтую новую вуліцу?..»

←

Сям'я Галі Шалковіч нямала ганарыцца тымі падарункамі, якія прывезла іх Галя. Маці Марыі Сцяпанаўне падаравала дачка цудоўныя адрэзы на сукенкі, брату Ігару — спартыўны касцюм. Не забыла Галя і айчыма Аляксандра Хафізавіча. Яму, аматару тытуню, прывезла яна партсігар.

Але не гэта, бадай, было галоўным. Здзівіла сям'ю тое, што ўстала Галя раней за ўсіх — «па-цаліннаму», як растлумачыла яна. Памылася халоднай вадой і адразу-ж пачала ўвіхацца каля гаспадаркі. І рабіла ўсё спрытна, хутка, добра.

Варта яшчэ сказаць, што некаторых перамен, якія маглі здарыцца з Галяй, пабойваліся яе бацькі. Думалі яны, што, перамяніўшы сакратарскі стол на кабіну трактара, агрубее іх Галіна, страціць сваю дзявочую прывабнасць. Мільгала гэтая думка і ў самой Галі да паездкі на цаліну. Ёй было крыху шкада, што не давядзецца насіць зусім яшчэ новыя лакавыя туфлі, модны капялюшык, прыгожую сумачку. Але ўсё гэта, аказваецца, прыйшлося да месца і на цаліне. А што датычыць грубасці, то ўсе страхі аказаліся дарэмнымі. Стала дзяўчына з выгляду здаравейшай, прыбавілася ў яе бадзёрасці. І на апетыт зараз не паскардзіцца.

↓





↑

«Што будзе з універсітэтам?» — гэтае пытанне вельмі хвалявала Галіну Шалковіч. Яна-ж раней цэлы год вучылася ва універсітэце і здала амаль усе экзамены і залікі за першы курс. Дэкан завочнага аддзялення БДУ Уладзімір Рыгоравіч Івашын заспакоіў дзяўчыну — ёй далі дазвол трымаць экзамены ў час яе чарговых адпачынкаў. Акрыленая падтрымкай, Галіна, не адкладваючы справу на доўгі час, звярнулася да метадыста завочнага факультэта Тамары Рыгораўны Каўхута з просьбай дапамагчы ёй скласці графік заняткаў з улікам сязоннасці работы трактарыстаў. Тамара Рыгораўна не толькі адказвала ў гэты раз на пытанні завочніцы, але, бадай, больш сама цікавілася жыццём і працай на цаліне. Доўга гутарылі яны ў адной з аўдыторый універсітэта.





Альберт Шарамет пабываў у Ждановіцкай МТС. Там ён пазнаёміўся са слесарам Уладзімірам Русаком. Уладзімір расказаў госцю, як ён рамантуе радыятары. Для гэтага слесар зрабіў спецыяльныя прыстасаванні. Альберт Шарамет сказаў яму, што нядрэнна было-б вопыт Русака распаўсюдзіць у МТС на цалінных землях. Уладзімір паабяцаў да ад'езду Альберта ў Казахстан падараваць яму камплект сваіх прыстасаванняў.

У першы дзень пабыўкі зайшлі дзяўчаты да сябе на радыё. Іх прыход выклікаў такое ажыўленне, якога, калі верыць дасціпнаму на язык супрацоўніку радыё, не было-б нават пры паяўленні самых славутых артыстаў.

Галя Астаповіч пайшла адразу-ж у машынапіснае бюро. Вось тут, на гэтым самым месцы, яна працавала год назад. Цяпер у яе руках машына куды больш складаная, чым пішучая машынка. Але няўжо зусім забыта ранейшая прафесія? Няўжо развучылася Галя друкаваць? Гэта цікавіла ўсіх. І вось Галіна зноў села за машынку. Хутка і роўна кладуцца літары на ліст паперы. А на бясконцыя запытанні сябровак чуецца ўпэўнены адказ Галіны: «Не, ніколечкі не каюся, што паехала на цаліну. Спачатку, вядома, было цяжка. Не адразу ў такую работу ўцягнешся. Затое, калі-б вы ведалі, як цікава і хораша працаваць у стэпе!..»



Увечары трое сяброў наведалі Рускі драматычны тэатр, дзе ставілі п'есу К. Губарэвіча «Брэсцкая крэпасць». У антракце зайшла гутарка пра гераізм. Характары герояў спектакля, мужных абаронцаў крэпасці напомнілі шмат каго з сябраў па цаліне. Тыя таксама не спалохаліся ніякіх цяжкасцей.



Вечарам другога дня сябры былі запрошаны ў Акруговы дом афіцэраў, на сход камсамольцаў і моладзі, якія сёлета выказалі жаданне паехаць на асваенне цалінных і абложных земляў.

Галя Шалковіч была выбрана ў прэзідыум сходу і выступіла са шчырымі, цёплымі словамі. На трыбуне яе змяніла ўчотчыца трактарнай брыгады імя XVIII з'езду ЛКСМ Беларусі Сулукульскага соўгаса Кустанайскай вобласці Тэрэза Карповіч — таксама пасланец камсамола Беларусі. Сваю прамову Тэрэза закончыла вершамі, якія напісала сама там, на казахстанскай зямлі.

Пусть растёт, растёт целинная семья.
Приезжайте к нам, товарищи-друзья!
Комсомольцы, комсомолки, молодежь,
Кустанай наш — край суровый, но хорош!
Будем вместе мы напористым трудом
Поднимать там плодородный чернозём,
Чтоб пшеница золотистою стеной
Поднималась над разбуженной землёй
И давала небывалый урожай.
Приезжайте в наш степной целинный край!

Бура авацый, якая запоўніла залу, была адказам на гэты верш, які, можа, яшчэ нельга друкаваць у сталічным часопісе, але які як найлепш выражае высокародныя пачуцці моладзі. На гэтым-жа сходзе нямала шчырых слоў сказалі і тыя, хто едзе на цаліну сёлетняй вясной. Семнаццацігадоваму трактарысту Большэвіцкай МТС Мінскага раёна Эдуарду Пашкуну нават двойчы прыйшлося выходзіць на трыбуну. Першы раз Эдуарду хацелася сказаць вельмі шмат. Але ад хвалявання ён не змог прамовіць і слова. Хлапца ўсёроўна добра зразумелі і горача, доўга апладзіравалі. У другі раз Эдуард толькі і здолеў сказаць:

— Я еду на цаліну і не пасаромлю там звання камсамольца!

# СКАРБНІЦА *сусветнага* МАСТАЦТВА

**П. КАБЗАРЭЎСКІ і Вс. РАЖДЗЕСТВЕНСКІ**



Эрмітаж. Зала Італьянскага мастацтва XVII—XVIII стагоддзяў.

Эрмітаж! Даўным-даўно гэтае слова спалучылася ў нашай свядомасці з уяўленнем аб цудоўным горадзе на Няве, аб найвялікшых культурных каштоўнасцях, якія беражліва захоўвае наш народ. Адкуль ні прыязджалі-б людзі ў Ленінград, хоць на самы кароткі тэрмін, для іх становіцца унутранай патрэбай наведаць сусветную скарбніцу мастацкіх і навуковых каштоўнасцей.

Цікавая і павучальная гісторыя гэтага сусветнага музея нават у той перыяд, калі ён яшчэ не стаў законным здабыткам народа.

Сама назва «Эрмітаж» — г. зн. «адасобленае сховішча» — паказвае, за якімі тоўстымі, непранікальнымі сценамі хаваліся ад народных мас здабыткі сусветнага мастацтва, якія знаходзіліся ў руках цароў і дваран. «Простаму люду» не было доступу ў гэтыя пышныя залы палаца. Яны шырока адкрыліся для працоўных толькі пасля Кастрычніка.

Першым, хто паклаў пачатак збіранню калекцый для Эрмітажа, быў Пётр Першы, адзіны з цароў, які разумеў, як важны для развіцця агульнай культуры народа доступ да выдатных твораў мастацтва. Яго кунсткамера, г. зн. збор розных рэдкасцей, безумоўна, насіла зусім іншы характар, чым пазнейшы збор карцін, і хутчэй уяўляла сабою тое, што мы называем зараз прыродазнаўча-навуковым, геалагічным, або нават медыцынскім музеем. Карціны, скульптура або архітэктурныя праекты былі ў ёй рэдкасцю. Але ніхто не мог-бы папракнуць Пятра ў абыякавасці да іх. Не вылучаючыся асабліва тонкім густам, не валодаючы адпаведнымі ведамі, заснавальнік поўночнай сталіцы ўсё-ж вельмі добра разумеў неабходнасць заахвочвання любві да мастацтва. Гэтым тлумачацца яго пастаянныя клопаты аб набыцці карцін, статуй, аб развіцці айчынных рамёслаў. У сваіх заграНічных падарожжах ён не прапускаў выпадку набыць тыя ці іншыя мастацкія каштоўнасці і адправіць іх у Пецербург. Каб атрымаць мармуровую статую Венеры, нядаўна перад тым знойдзеную пры раскопках у Італіі, рускі цар выменяў яе ў папы рымскага на мошчы святой Брыгіты, якія ён узяў у Рэвелі ў ліку іншых ваенных трафеяў. Для ўпрыгожання Летняга саду ён набыў нямала італьянскіх статуй, якія і па сённяшні дзень стаяць у цяністых ліпавых алеях любімага месца адпачынку ленінградцаў. З Бруселя і Антверпена прывезена ў Расію 117 карцін — галоўным чынам пейзажаў і марскіх батальных сцэн. А ў канцы свайго царствавання Пётр купіў у англійскіх купцоў яшчэ 119 палоцен. Гэтым быў пакладзены пачатак Эрмітажу.

Пераемнікі цара, у асаблівасці яго дачка Елізавета Пятроўна, імкнуліся прадоўжыць пачатую ім традыцыю, але ўжо зусім у іншых мэтах. На ўсе набытыя каштоўнасці яны глядзелі, як на сваю асабістую ўласнасць, якая памнажала пышнасць двара.

Екацярына II значна павялічыла колькасць карцін заходняга жывапісу, размясціўшы іх у спецыяльнай прыбудове да Зімовага палаца, а разам з тым канчаткова закрыла доступ да іх для ўсіх, хто не належаў да вышэйшай знаці. К гэтаму часу карцінная галерэя ператварылася ў адзін з самых выдатных музеяў Еўропы.

Вядомы падарожнік і вучоны Георгі, член многіх еўрапейскіх акадэмій і навуковых таварыстваў, быў уражаны харакством Эрмітажа. Ён пісаў: «есть ныне одна из преимущественных галерей в Европе как в рассуждении наизящнейших работ славнейших мастеров всех школ и отменно прекрасных, редких и драгоценных картин, так и в рассуждении многочисленности оных».

Але Екацярына, як скупая гаспадыня, ахоўвала гэтую скарбніцу ад доступу ўсіх, хто не меў дачынення да яе двара. На заўвагу філосафа Грыма, які папракнуў яе тым, што яна «замкнула творы сусветнага мастацтва ў цямніцы», яна фанабэрыста адказала: «Усім гэтым любуюцца мышы ды я...»

Цары, якія правілі Расіяй пасля Екацярыны, усё менш і менш клапаціліся аб папаўненні каштоўных калекцый Эрмітажа. Аляксандр I яшчэ некалькі павялічыў гэтыя калекцыі за кошт мастацкіх трафеяў, якія дасталіся яму пасля канчатковага разгрому Напалеона. Але ўжо пры Нікалаі I для Эрмітажа амаль не набывалася нічога каштоўнага ў мастацкіх адносінах.

Больш таго, усё, што нагадвала нават аб павярхоўным лібералізме екацярынінскіх часоў, было выдалена з эрмітажных залаў. Убачыўшы аднойчы статую Вальтэра, Нікалай у шаленстве закрычаў: «Вынесці гэтую старую малпу!» і мармуровы філосаф быў вынесены ў падвал, дзе яму давялося праляжаць не адзін дзесятак год. Бібліятэкай Вальтэра, якую набыла для Эрмітажа Екацярына, таксама доўгі час пагарджалі. А. С. Пушкіну з вялікай цяжкасцю ўдалося атрымаць у яе доступ.

Грубы салдафон, Нікалай набываў для Эрмітажа толькі тыя палотны заграНічных майстроў, на якіх былі паказаны парады і бітвы. Ад усяго, што было вышэй яго разумення, цар стараўся вызваліцца, загадваючы час-ад-часу наладжваць аукцыёны для продажу прыватным асобам часам вельмі каштоўных твораў жывапісу. Па свайму густу вызначаючы «нягоднасць» тых ці іншых палотнаў, ён быў прамым віноўнікам таго, што ў рукі замежных багацеяў-калекцыянераў трапіў цэлы шэраг выдатных твораў Джарджыёне, Караваджо, Гвідо Рэні, Рубенса, Ван Дэйка, Рэмбрандта.

Але багацці Эрмітажа ўсё-ж заставаліся сапраўды невычарпальнымі. У сувязі з развіццём у сярэдзіне XIX ст. рускай археалагічнай навукі, Эрмітаж папоўніўся адкапанымі ў час раскопак каштоўнасцямі з-пад Керчы, Алівіі, Херсанеса. Рускімі вучонымі быў пакладзены пачатак збіранню каштоўнасцей Усходу.

Рост эрмітажных калекцый ішоў няспынна, але ўжо не за кошт цароў, а дзякуючы намаганням рускай навукі. Эрмітаж ператварыўся ў разгорнуты музей, па якім можна было вывучаць гісторыю сусветнай матэрыяльнай культуры.

І ўсё-ж Эрмітаж заставаўся ранейшым «адасобленым сховішчам». Доступ у яго абмяжоўваўся ўсялякімі правіламі, накіраванымі да таго, каб перагарадзіць народным масам шлях да сапраўднага мастацтва. Былі ўведзены асобыя білеты, выдаваліся яны толькі ў прыдворнай канторы з «занясеннем у асобную шнураваную кнігу імён і званняў паноў-наведвальнікаў». Іменна «паноў», таму што простаму люду нельга было і блізка падыйсці да варот музея. Чыноўныя наведвальнікі мелі права зайсці ў музей толькі ў мундзіры, цывільныя — у фраку або «прыстойным сурдуце».

Кастрычніцкая рэвалюцыя назаўсёды знішчыла не толькі саслоўныя прывілегіі, але і эксплуататарскія класы. Дзверы Эрмітажа былі шырока расчынены для ўсіх працоўных. Ён стаў не толькі музеем выдатных твораў сусветнага мастацтва, але і сапраўдным народным універсітэтам мастацтвазнаўчых ведаў. Багацці яго павялічыліся нязмерна, таму што многія прыватныя калекцыі сталі ўласнасцю дзяржавы. Адкрыліся новыя аддзелы — у тым ліку культуры і мастацтва народаў Усходу, рускага побыту XVIII стагоддзя, ваеннага мінулага рускага народа, аддзел гравюр і малюнка. Для таго, каб уявіць сабе, наколькі багаты ў сваёй экспазіцыі хоць-бы аддзел Усходу, дастаткова ўказаць на тое, што ў ім сабраны самыя рэдкія помнікі, знойдзеныя сярод руін залатаардынскай сталіцы Сарай-Берке, помнікі Ванскай дзяржавы з раскопак на Тойрах-кала, сасанідскае серабро і бронза з малюнкамі палявання і піроў іранскіх цароў, іранскія рэдкія камені, албанскія бронзавыя катлы з упрыгожаннямі, фрэскі і скульптура з аазісаў кітайскага Туркестана і інш.

Цяжка хоць-бы ў самых агульных рысах пералічыць тое, што сабрана ў залах гэтага музея з

твораў выяўленчага мастацтва. Дастаткова сказаць, што ні адна школа сусветнага жывапісу не засталася не адлюстраванай у калекцыях Эрмітажа і прытым у лепшых сваіх узорах. Пачынаючы з помнікаў старажытных часоў, з роспісаў і каменных пліт Егіпта і Ірана, з фігурных ваз і скульптуры старажытнай Грэцыі, Егіпта і рымскага скульптурнага мастацтва, тут прадстаўлены і матэрыяльная культура еўрапейскага і азіяцкага сярэдневякоўя, і ўсё развіццё жывапісу эпохі Адраджэння, не гаворачы ўжо аб выдатных творах больш блізкіх эпох, аж да канца XIX стагоддзя.

Асаблівую славу Эрмітажа складае збор палоцен Рэмбрандта, — лепшы ў свеце, — і цудоўныя ўзоры рэалістычнага жывапісу фламандскай і галандскай школ XVIII стагоддзя.

За савецкі час колькасць накопленых у Эрмітажы каштоўнасцей настолькі вырасла, што для іх стала недастаткова сцен старога памяшкання. Да старога будынка Эрмітажа быў далучаны і велізарны будынак Зімовага палаца. Плошча, якую займае музей, павялічылася ў пяць разоў. Калі прайсці па ўсіх залах і галерэях савецкага Эрмітажа, прыдзецца зрабіць маршрут у 22 км.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ранейшы фонд музея павялічыўся больш чым на мільён выдатных помнікаў мастацтва і матэрыяльнай культуры. Па багаццю сваіх калекцый Эрмітаж ледзь не перавышае каштоўнасці Луўра і Брытанскага музея. А ў нашы дні, калі захаванне культурнай спадчыны на буржуазным Захадзе знаходзіцца ў поўным заняпадзе, Эрмітаж, безумоўна, можна лічыць першай у свеце скарбніцай сусветнага мастацтва.

Калі ў 1940 годзе Дзяржаўны Эрмітаж святкаваў 175 год свайго існавання, быў зроблены агульны падлік наведвальнікаў, якія прайшлі праз яго залы за савецкі час. І вось красамоўныя лічбы: у 1919 годзе — 11 130 чалавек, у 1923 годзе — 103 463, у 1927 годзе — 303 283, у 1938 годзе — 833 135 чалавек. З поўнай упэўненасцю можна сцвярджаць, што ніводзін з праслаўленых музеяў свету не меў такога росту наведвальнікаў.

В. І. Ленін гаварыў, што з культурнай спадчыны мінулага мы павінны выбраць лепшае, што дапамагае нам у будаўніцтве новай, сацыялістычнай культуры. Савецкі народ з'яўляецца законным спадчыннікам і прадаўжальнікам лепшых традыцый прагрэсіўнага мастацтва ўсіх часоў і народаў. У эпоху, калі капіталістычны свет, падрыхтоўваючы новыя кровапралітныя войны, аддае на ганьбу і знішчэнне найвялікшыя культурныя каштоўнасці мастацтва і навукі, беражлівыя адносіны савецкага народа да ўсяго лепшага, што створана чалавецтвам на працягу стагоддзяў, яскрава сведчыць аб тым, што ў дзяржаве міру і вызваленай працы занялася зара новай эры, якая нясе з сабой поўны росквіт усіх творчых сіл чалавека.

Эрмітаж — не толькі сховішча гістарычных помнікаў мастацтва, але і жывая школа народа, якая дапамагае яму ў стварэнні новых каштоўнасцей сацыялістычнай культуры.

Эрмітаж. Парадная лесвіца.



# ПРЫЗВАННЕ

В. БАБРОВІЧ

Людміла Драздова паявілася ў Гайне тры гады назад. Прышла яна ў сярэднюю школу з накіраваннем абласнога аддзела народнай асветы і невялікім студэнцкім чамаданчыкам. Мясціны гэтыя дзяўчыне спадабаліся з першага позірку. Удаль бегла імклівая рэчка, навокал ляжалі прыгожыя сенажаці, узгоркі, зеляней лес. І людзі таксама не сядзелі тут, склаўшы рукі. Варта было паглядзець на калгасныя будынкі, на ўстаўленыя старамі збажыны прыгуменні, каб пераканацца ў гэтым.

Прайшло два-тры месяцы, і Людміла адчула, што яна смялей уваходзіць у клас, што настаўніца з яе, бясспрэчна, атрымаецца. Адным словам, добрая слава пайшла пра Людмілу Драздову як пра настаўніцу ў Гайне.

— Людміла Рыгораўна, — звярнулася неяк да яе даярка Ніна Рабаткевіч. — Можа-б вы самадзейнасць дапамаглі нам наладзіць? Вось вас вучні хваляць, гавораць, усё вы ўмееце арганізаваць, можа дапаможаце і нам...

Людміла згадзілася. Чаму-ж не дапамагчы, калі душа ляжыць да гэтай справы.

І вось сцэна калгаснага клуба; поўкругам стаяць калгасныя дзяўчаты ў ярка вышытых кофтачках, у стракатых хусцінках. У залу нясуцца пераліўчатыя гукі баяна і задорныя, бадзёрыя прыпеўкі. Клуб аж дрыжыць ад людскіх воплескаў, і Людміла адчувае, што ў гэтых прыпеўках, у гэтай вясёлай музыцы засталася часцінка і яе душы.

З мастацкай самадзейнасці і пачалося зблізенне Людмілы з калгаснай моладдзю. А далей справы пайшлі такім парадкам.

Неяк паклікаў яе да сябе сакратар партыйнай арганізацыі калгаса Іосіф Васільевіч Бараноўскі.

— З самадзейнасцю, бачыце, добра атрымалася ў вас, — сказаў ён. — З моладдзю вы ладзіць умееце. Вось мы і хацелі-б прапанаваць вам кіраваць камсамольскай палітшколай.

Дзяўчына дала згоду, хоць у душы ўсё-ж моцна хісталася. Да гэтага ёй ніколі не прыходзілася працаваць прапагандыстам. Адна справа вучні, даўно распрацаваная методыка, якую прыходзілася вывучаць у інстытуце, і другая справа — аўдыторыя значна старэйшая па ўзросту, з другімі інтарэсамі.

Нарэшце, настаў той дзень, да якога дзяўчына доўга рыхтавалася. За сталамі калгаснай канцылярыі размясціліся хлопцы і дзяўчаты, пра якіх пісалі ў газетах, партрэты якіх віселі ў фотавітрыне. Шмат хто з іх быў амаль што равеснікам Людмілы.

— Папрашу запісваць, — не сваім голасам прагаварыла настаўніца. «Нібы дзячок які», — мільгнула ў галаве думка. Напісала Людміла ёмкі сшытак — цэлых трыццаць шэсць старонак. Але чым далей яна гаварыла, тым больш адчувала, што гаворыць не тое, што трэба. Дзяўчына чырванела, не магла адарваць вачэй ад сшытка. За сталамі-ж шапталіся, паціху пасмейваліся, а хлопцы нават закурылі.

Нарэшце, дзяўчына адолела апошнюю старонку і з пачуццём палёгкі ўздыхнула. Ад яе вачэй не схавалася, што слухачы перад апошняй старонкай таксама павесялелі. Пасля заняткаў Людміла ішла дамоў незадаволеная сабой, засмучаная.

У наступны панядзелак аўдыторыя Людмілы крыху зменшылася. Але дзяўчына адчувала сябе на гэты раз больш упэўненай. Яна шмат прачытала па праграмнаму матэрыялу, шмат думала сама. Бадай, самай галоўнай яе заваёвай на гэтых занятках было тое, што Людміла нават не раскрыла канспекта. Яе гутарка ішла значна плаўней і лягчэй. На гэты раз ужо ніхто не курыў, камсамольцы сядзелі ціха, слухалі ўважліва.

Праз колькі часу Людміла Драздова вырашыла правесці субяседаванне па пройдзенаму матэрыялу. Цяпер дзяўчына знайшла самую галоўную сваю памылку. Яна амаль не ведала сваіх слухачоў. Чым яны жывуць, як працуюць, якія ў іх планы на будучае? Памылку трэба было выпраўляць, трэба было па-сапраўднаму зблізіцца з камсамольцамі. У такой справе, як кіраўніцтва камсамольскай палітшколай, «акадэмічных» лекцый, відаць, зусім недастаткова.

Людміла стала наведваць камсамольскія сходы, заходзіла ў праўленне, у клуб, шмат разоў пабывала на фермах. Цяпер яна ўжо многа чаго ведала і пра Галю Гілевіч, і пра Ніну Жыляніну, і пра старасту гуртка Анну Кохан.

Аднойчы летам, калі ішла касавіца, Людміла сустрэла Косцю Селеха, камсамольца сваёй школы.

— Брыгадзір табою незадаволены, Косця. Кажа, на работу не ходзіш.

— Касой махаць, не кніжкі чытаць, — адказаў той і пакрочыў сваёй дарогай.

Людміла пакрыўдзілася. «Год займалася з чалавекам, і вось — вынік». Назаўтра дзяўчына пайшла на сенажаць. Яна ўвішна грабла сена ў валкі, спрытна клала яго ў копы. Пад'ехаў Косця Селех, які сцягваў сена да адонка. Выгляд у яго быў разгублены, юнак хаваў вочы. Людміла быццам нічога і не заўважыла.

— Ведаеш што, Косця, — сказала яна. — Бачыш, надвор'е якое, — трэба скарыстаць. Заўтра нядзельнік аб'яўляем. Накажы камсамольцам, — дзяўчына назвала прозвішчы.

— Прыдзем, — узрадавана адказаў Косця. — Усе, як адзін...

У гэтым навучальным годзе палітшкола калгаса імя Калініна займаецца па праграме другога года навучання. Аўдыторыя стала большай, чым летась. Але не гэта з'яўляецца самым важным. Пра зрухі ў вучобе сведчаць і іншыя факты. Камсамольцы пачалі больш чытаць, больш цікавіцца палітычным жыццём, літаратурнымі навінкамі. Вельмі часта заняткі перарастаюць у жывую, задушэўную гутарку.

На рачулцы Гайне калгас будуе гідраэлектрастанцыю. Расказваючы пра індустрыялізацыю і электрыфікацыю краіны ў гады першых пяцігодак, Людміла ўспомніла і пра мясцовую будоўлю. Але камсамольцы былі не надта задаволены ходам спраў на будаўніцтве. Пра гэта і пайшла гутарка.

Праз нейкі час будоўля на Гайне пайшла хутчэй — значную ролю адыгралі ў гэтым камсамольцы і моладзь. Па ініцыятыве камсамольцаў былі арганізаваны тры маладзёжныя будаўнічыя брыгады. У гэтыя дні і Людміла Драздова ўвачавідкі ўбачыла, што яе работа прапагандыста дала пэўныя вынікі. На Гайне сярод будаўнікоў вялі работу шэсць яе выхаванцаў. Яны працавалі там агітатарамі.

в. Гайна,
Лагойскі раён.

# Твой старэйшы таварыш

В. МАЦВЕЕЎ

Машыніст Мікалай Васільевіч Заікін увайшоў на двор паравознага дэпо і, не спяшаючыся, пакрочыў уздоўж корпуса рамонтнага цэха. На дошцы аб'яў вісеў акуратна разлінаваны аркуш паперы «...адбудзецца пасяджэнне комсамольскага бюро паравознага дэпо, — пісалася ў аб'яве. — Будзе разглядацца персанальная справа Анатоля Талюка».

«Якая-ж там справа ў Талюка? — падумаў машыніст. — Пабачыць-бы яго»...

Машыніст наважыў зайсці ў дэпо ў надзеі ўбачыць там Талюка. У чырвоным кутку дэпо было паўнютка людзей. Там ішла нарада паравознікаў калоны машыніста-інструктара Жукава. Сярод прысутных Заікін заўважыў і Анатоля Талюка. Машыністу кінулася ў вочы, што юнак быў нечым моцна занепакоены. «Нядобрае нешта з хлопцам», — падумаў машыніст. У гэтую хвіліну падняўся Жукаў, і ў пакоі ўсе прыціхлі.

— Сёння мы абмяркуем учынак Талюка, — абвёў Жукаў позіркам паравознікаў.

У Мікалая Васільевіча трывожна затахкала сэрца: «Што-ж магло здарыцца?»

— Качагар Талюк, — працягваў Жукаў, — у панядзелак пасля начной змены ў кампаніі з машыністам Лабуновым напіўся да непрытомнасці. У такім стане ён прышоў у дэпо, а пасля ўчыніў дэбош на кватэры старшага машыніста Іванова. Прышлося выклікаць рабочых, каб уціхамірыць буяна...

«Анатоль... і раптам напіўся...—Мікалай Васільевіч здзіўлена паглядзеў на маладога качагара. — Калі-ж гэта ён паспеў з бутэлькай пазнаёміцца?»

— Талюк хлопец неблагі і работнік нічога не скажаш, — пачуўся нечый голас. — Але гарэлка да дабра не давядзе...

— Выгнаць яго і ўся размова. П'янюгі нам не трэба...

У пакоі падняўся шум. Адны абураліся, другія даказвалі, што гарачыцца ў такой справе нельга, што варта больш прыглядзецца да Талюка.

Мікалай Васільевіч сядзеў, не падымаючы галавы, і яго вуха лавіла кожную рэпліку, кожнае слова. Талюк займаў не апошняе месца ў сэрцы старога машыніста. З многімі качагарамі прышлося яму ездзіць за гэтыя дваццаць два гады. Але гэты хлопец, якога сёння так жорстка прабіраюць, асабліва яму палюбіўся.

Анатоль прышоў на паравоз СУ 20 148 гады тры назад. Пачаў ён ездзіць са старшым машыністам Вялічкам, а пасля амаль два гады яго нязменным камандзірам быў ён, Мікалай Васільевіч Заікін. Старога паравозніка прывáблівала ў хлапцу сціпласць, цікаўнасць, шчырае, па-юнацку гарачае захапленне сваёй работай. Выклікаюць, бывала, у паездку. Ну, машыніст, як і належыць, прыходзіць крыху раней. Паяўляюцца і памочнік з качагарам. Прынялі, нарэшце, лакаматыў.

— Ну, хлопчыкі, — падасць голас Заікін, — каб аж вецер свістаў!

Ніколі не здаралася, каб падвёў у чым-небудзь Анатоль. Інструмент заўсёды ў яго пад рукамі, рукі спрытныя, умелыя. Мігам закончыць сваю работу і дапамагае памочніку. Добры быў качагар, нічога не скажаш...

Неяк адкамандзіравалі брыгаду Мікалая Васільевіча ў Барысаў. Трэба было дапамагчы мясцовым чыгуначнікам. Амаль два месяцы прабылі там мінскія чыгуначнікі. І за гэтыя два месяцы асабліва зблізіліся стары механік і малады качагар. Мікалай Васільевіч усё часцей прыкмячаў, як прагна цягнецца юнак да ведаў, як любіць ён свой лакаматыў. Ды і Анатоль, бліжэй сышоўшыся з машыністам, не таіўся ад яго.

— Трэба было-б табе, Толік, у памочнікі, — сказаў неяк Заікін. — Хочацца вадзіць паязды?

— Хочацца, — не пакрывіў душой Анатоль. — Я даўно ўжо да работы прыглядаюся...

У наступную паездку, калі трэба было падкінуць вугалю ў топку, Заікін, не адыходзячы ад акна, скамандаваў:

— Толік, запраў топку!

Качагар здрыгануўся ад нечаканасці, паглядзеў на памочніка машыніста, які яму хітравата падмігрнуў, і ўзяў у рукі шуфлю.

— Не спяшайся, — спыніў яго Мікалай Васільевіч. — Вугаль трэба кідаць роўна, вось так...

Ён узяў з рук качагара лапату і дакладна, роўна пачаў кідаць вугаль у вогненную пашчу топкі.

— Галоўнае, каб гарэнне было роўнамерным на ўсёй каласніковай плошчы топкі, — вучыў машыніст.

Другі раз, калі Заікін толькі закончыў аглядаць механізмы лакаматыва і выціраў пакуллем рукі, Анатоль нечакана папрасіў:

— Дзядзька Мікалай, раскажаш мне, як працуюць інжэктары?

Заікін усміхнуўся, дастаў папяросу, не спяшаючыся, размяў яе пальцамі.

— Ну, слухай...

Анатоль не прапусціў тады ніводнага слова з расказа машыніста.

Вось такім ведаў комуніст Заікін комсамольца Анатоля Талюка. Што-ж здарылася з хлопцам?

З таго часу, як лакаматыў СУ 20 148 пайшоў на рамонт, Мікалай Васільевіч і Талюк працуюць на розных паравозах. За гэты час машыніст бачыўся са сваім былым качагарам, як кажуць, рады ў гады: дзе-небудзь на нарадзе або ў кароткія хвіліны сустрэч у дэпо, калі кожны заняты сваёй справай.

...Нарада паравознікаў зацягвалася. Зразумела, каб на месцы Анатоля быў чалавек, які жыць не можа без гарэлкі, які сістэматычна парушае дысцыпліну, то размова была-б кароткай. А тут сядзеў юнак, якому толькі-толькі споўнілася дваццаць гадоў.

— Дайце мне сказаць, — павольна ўзняўся са свайго месца Заікін. — Ён сурова паглядзеў на Анатоля. — Тут казалі, што трэба выгнаць Талюка. Выпадак, сапраўды, брыдкі, прапусціць яго так нельга. Але я ведаў некалі іншага качагара Талюка — дысцыплінаванага, акуратнага ў рабоце. Штосьці, відаць, з ім здарылася, і мы таксама нясем адказ за гэта. Я прашу вось аб чым. Пачакаем пакуль з адміністратыўнымі вывадамі. Сёння-ж учынак Талюка будуць разбіраць і комсамольцы...

Дамоў ішлі разам — стары машыніст і Анатоль Талюк.

— Значыць, скандалы навучыўся рабіць, — не стрымаўся Мікалай Васільевіч. — А што, як скажуць: хопіць, хлопчык, у дэпо нам такія не патрэбны...

— Мне з дэпо няма куды ісці, дзядзька Мікалай...

Вечарам персанальную справу Анатоля Талюка разбіралі на пасяджэнні дэпоўскага камітэта комсамола. Выступалі столяр Віктар Корзун, рахункавод Зоя Наско. Яны гаварылі пра тое, што ўжо шмат месяцаў у дэпо не было ні аднаго выпадку п'янкі, а таму ўчынак Талюка — проста абураючы. Адміністрацыя хацела звольніць Анатоля з работы і мела рацыю. Камітэт папрасіў пачакаць з гэтым. Але няхай Талюк памятае...

Анатолю Талюку вынеслі суровую вымову.

— Не сарвешся? — запытаў на развітанне сакратар комсамольскай арганізацыі дэпо Юрый Курдзюкоў. — Ты ведаеш, за цябе Заікін прыходзіў прасіць. Глядзі, не падвядзі старога комуніста. Мы падтрымалі яго прапанову, каб цябе да яго працаваць перавялі. Так што пытанне вырашана...

— Не падвяду, — цвёрда адказаў Талюк, выціраючы насоўкай успацелы лоб. — Сам не разумею, як са мной гэта здарылася. Недарэчны выпадак...

Выпадак сапраўды быў недарэчным. Ніякай цягі да гарэлкі Анатоль ніколі не адчуваў. Але вось трапіў ён у брыгаду старшага машыніста Іванова. Як быццам і таварышы добрыя, ведаюць сваю справу. Але такой згуртаванасці, якая была некалі ў брыгадзе Заікіна, Анатоль ужо не адчуваў. Хлапцу здавалася, што стаў ён тут нібы чужы. А тут якраз і паявіліся «дружкі» збоку. Спачатку адмаўляўся, а яны высмейваць пачалі:

— Таксама машыністам думае быць! Паравознік...

Цяжкі бывае, як кажуць, толькі пачатак. Потым Анатоль іншы раз пачаў заглядваць у буфет. Неяк выпіў ён з самай раніцы. Нечакана ў дзверы пастукалі:

— Талюк, на 15-50 у паездку.

Трывожна затахкала сэрца. Анатоль не быў п'яным, але трывога апанавала ўсю яго істоту. Стрэлкі гадзінніка перайшлі праз «3». Час у дэпо. Качагар ішоў і на поўныя грудзі дыхаў свежым паветрам — хутчэй-бы вышаў здрадлівы пах.

Ад дому да дэпо — недалёка. Юнак нерашуча зайшоў да машыніста-інструктара Жукава. «Галоўнае, не разнюхаў-бы», — мільганула думка. Але ўсё, здаецца, сышло. Анатоль з палёгкай уздыхнуў. Яны прынялі паравоз і выехалі за кантрольны пост. Тут хлопец і злавіў на сабе пранікліvы позірк старога машыніста.

— Выпіў сёння?

— Раніцой выпіў, чэснае слова. Адзін пах застаўся...

— Глядзі, каб гэты пах з тропу не збіў.

Пра гэты прыкры выпадак хутка забылі. І ўсё было-б добра, каб не гэтая нявырымслівая кампанія, каб не гэтая раніца, якая ледзь не паламала выпеставаныя з маленства планы...

Рос Анатоль у сям'і чыгуначніка і даўно ўжо з зайздрасцю паглядаў на імклівыя паязды. Колькі марыў ён пра тую хвіліну, калі прывядзе ён свой першы поезд і, узяўшыся за поручні, будзе павольна, як гаспадар, сыходзіць з паравоза. Там-жа, на станцыі, нехта скажа:

— Машыніст Талюк прывёў...

І раптам — выгнаць з дэпо. Ці-ж можна было-б перанесці такое...

...Анатоль куляй вылецеў з пакоя, дзе ішло пасяджэнне бюро. Было такое адчуванне, нібы з плеч у яго зваліўся нейкі вялікі цяжар.

— Пачакай, куды ляціш, — пачуў хлопец знаёмы голас Мікалая Васільевіча. — Пройдземся. Пагаварыць, брат, нам шмат аб чым трэба...

ст. МІНСК.



В. В. Маякоўскі. (Здымак зроблены ў 1925 годзе ў Парыжы.)

# МАЯКОЎСКІ З НАМІ

**Да 25-годдзя з дня смерці**

**Леў НІКУЛІН**

Мінула чвэртка веку з тае пары, як савецкая паэзія страціла лепшага і таленавіцейшага паэта нашай савецкай эпохі Владзіміра Владзіміравіча Маякоўскага. Творы паэта прайшлі выпрабаванне часам, яны і ў нашы дні служаць магутнай зброяй у барацьбе за мірную працу, за шчасце народаў, за комунізм. Па-ранейшаму Маякоўскі з намі «жывы з жывымі». І цяпер, у дні, калі мільёны чытачоў зноў перачытваюць яго творы, мы адчуваем паэта побач з намі і з любоўю, з удзячнасцю ўспамінаем усё тое, што ён зрабіў для развіцця савецкай паэзіі, для памнажэння славы сваёй вялікай Радзімы.

Маякоўскі пачаў сваё свядомае жыццё ў цяжкія гады. Гэта былі гады чорнай рэакцыі, жорсткай эксплуатацыі рабочага класа.

Шаснаццацігадовы юнак-паэт перанёс зняволенне ў царскай турме, як агітатар, большэвік.

Пасля вызвалення з турмы Маякоўскі навучаецца ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу і там сустракаецца з зачынальнікамі рускага футурызма. Футурысцкі напрамак па сутнасці сваёй быў рэакцыйным у мастацтве. Выступаючы супраць рускага класічнага мастацтва, футурысты выступалі супраць ідэйнага мастацтва, супраць яго перадавых ідэй, адстойваючы фармалізм, бяссэнсіцу і слоўныя выкрутасы. І хоць Маякоўскі ў той час, і пазней, называў сябе футурыстам, але і ў ранніх сваіх творах ён быў далёка ад футурызма. Нават ранняя паэзія Маякоўскага была накіравана супраць буржуазна-дваранскага ладу. Ён не мог мірыцца з бесчалавечным прыгнётам народа, ён не прызнаваў маралі пануючых класаў, не прызнаваў «мастацтва багатых» і іх эстэтыку.

Яшчэ ў 1915 годзе Маякоўскі пісаў:

Где глаз людей обрывается
куцый
главой голодных орд,
в терновом венке
революций
грядет шестнадцатый год.

Натуральным законам быў прыход Маякоўскага ў дні кастрычніцкай рэволюцыі ў штаб Кастрычніка, у Смольны.

З першых дзён нараджэння новага, соцыялістычнага свету паэт аддае свой талент вялікай справе служэння рэволюцыі, ён заклікае людзей да працы на карысць народа.

У цяжкія гады грамадзянскай вайны Маякоўскі быў пачынальнікам і, можна сказаць, вынаходцам агітацыйнага плаката. Яшчэ Горкі адзначыў, што паэт гаворыць, нібы ў два галасы: то як сапраўдны лірык, то рэзка сатырычна.

У рабоце над плакатамі ў Маякоўскага спалучаліся здольнасці паэта з талентам мастака — майстра плакатнага жывапісу. Праца гэтая ў тую пару была сапраўды геранчнай. Быў голад, холад, краіна была ў блакадзе, і майстэрня агітацыйных плакатаў Маякоўскага, месца яго працы, нагадвала цэх завода таго часу — намаразь на сценах, сіберны холад, цьмянае святло электрычнай лямпачкі і паэт з пэндзлем над разгорнутымі на падлозе лістамі шурпатай, шпалернай паперы.

Такім ён застаўся ў памяці маёй тых незабыўных гадоў. Плакаты Маякоўскага, яго вострыя надпісы ў вершах, накіраваныя супраць контррэволюцыянераў, інтэрвентаў, напаўнялі ўпэўненасцю ў перамогу, верай у сілу народа і збіралі мноства людзей ля вітрын, дзе яны выстаўляліся.

Аднак гэтая аператыўная, тераканальная прапаганда не цалкам забірала Маякоўскага, ён знаходзіў час і для работы над паэмамі і вершамі. У вострых сатырычных вершах, у форме палітычнага памфлета Маякоўскі ўскрывае сутнасць капіталістычнага ладу, так званай дэмакратыі, з якой носяцца буржуазныя адвакаты.

Паэт заклеймім буржуазную культуру, двудушную мараль краіны, дзе пануе «капитал — его препохабие». Ён бязлітасна выкрываў ханжаства, духоўную спустошанасць, хлуслівую мараль і цынічную грабежніцкую палітыку капіталістычнага ладу. Ён выкрываў жоўты друк, паказваў сапраўдны твар буржуазнай свабоды друку, упадніцкае гнілое мастацтва буржуазіі, шкодную ідэалогію капіталізма.

Своеасаблівы, жалезны рытм вершаў, арыгінальнасць рыфмы, сілу гнеўнай, бічуючай сатыры — усё гэта Маякоўскі прымусіў служыць ідэі твора.

Так жыў і працаваў Маякоўскі ў той час, калі маладая Савецкая рэспубліка геранчна змагалася за сваё існаванне. Разам з народам, з усёй краінай ён перажыў яе радасці ў эпоху аднаўленчага перыяду, разам з народам ён перажыў усенароднае, бязмежнае гора — смерць Леніна. У студзеньскія жалобныя ночы 1924 года Маякоўскі разам з сотнямі тысяч людзей шмат разоў праходзіў праз Калонную залу Дома Саюзаў, дзе народ развітваўся са сваім правадыром. І тут, у гэтай зале, ля труны Леніна, нарадзіліся першыя строфы лепшага твора паэта, — паэмы «Владзімір Ільіч Ленін».

У гэтай першай савецкай эпічнай паэме Маякоўскі пранікнёна і глыбока праўдзіва расказаў аб сувязі партыі і Леніна. Паэма аб Леніне, усведамленне вялікай праўды справы партыі, справы Леніна выхавала паэта.

Я счастлив,
что я
этой силы частица,
что общие
даже слёзы из глаз.
Сильнее
и чище
нельзя
причаститься
великому чувству
по имени —
класс!

Глыбокая цікавасць да жыцця, жаданне ведаць, як і чым жывуць людзі ў роднай краіне і за мяжою валодалі паэтам. Ён шмат ездзіў па краіне, наведваў гарады і рабочыя пасёлкі, асабліва ахвотна выступаў сярод рабочых. Маякоўскі ездзіў за мяжу, і кожная яго паездка ўзбагачала савецкую паэзію. Асабліва плённай была паездка Маякоўскага ў Злучаныя Штаты Амерыкі ў 1925 годзе.

Маякоўскі быў у Злучаных Штатах у тыя гады, калі ў нас, у СССР, яшчэ не быў ажыццёўлены пяцігадовы план індустрыялізацыі. Аддаючы вартае прагрэсу амерыканскай тэхнікі, арганізацыі амерыканскай прамысловасці, Маякоўскі з пачуццём гонару пісаў аб тым, што яго радзіма далёка перагнала і апярэдзіла капіталістычную Амерыку, стварыўшы справядлівы і самы перадавы ў свеце соцыяльны лад, які вызваліў савецкі народ ад ланцугоў капітала.

Нами
через пропасть
прямо к коммунизму
Перекинут мост,
длиною —
во сто лет.

Пачуццё ўласнай гордасці перад капіталістычным светам дасягае велізарнай сілы і пераканальнасці ў вядомых вершах аб совецкім пашпарце:

Читайте,
завидуйте,
я —
гражданин
Советского Союза.

Толькі палымяны патрыёт, паэт, які аддаў усю сваю творчасць народу, сваёй любімай Радзіме, мог з такой глыбінёй выказаць у вершах палымяную любоў да бацькаўшчыны, веру ў духоўную прыгажосць і мужнасць совецкага чалавека. Гэта палымяная любоў да Радзімы, адданасць партыі і совецкаму ўраду спалучалася ў паэта з нянавісцю да ворагаў яго совецкай радзімы і народа.

Маякоўскі быў з авангардам рабочага класа з партыяй, якая змагаецца за шчасце чалавецтва. Для яго партыя была — «мозг класа, сіла класа, слава класа», ён бачыў у партыі бяссмерце вялікай справы пераўтварэння свету, ён высока цаніў самае вялікае званне, само слова — комуніст. У творах, якія па праву ён называў партыйнымі кніжкамі, адна з найвялікшых заслуг паэта — іх партыйнасць.

У барацьбе за соцыялізм, за шчаслівую будучыню чалавецтва — комунізм паэт бязлітасна змагаўся з перажыткамі ў свядомасці людзей. Усім вядома, як пахвальна адгукнуўся В. І. Ленін аб вершы Маякоўскага «Прозаседавшиеся». Смела і рашуча выступаў паэт у нашым друку, асабліва ў «Комсомольской правде», з сатырычнымі вершамі, змагаўся і бічаваў усё, што нявартa совецкага чалавека. Бюракраты, паклёпнікі, хлусы, разявакі, фальшывыя людзі, балбатуны—вось аб'екты, якія і зараз заслугоўваюць стрэл совецкай сатыры.

Бязлітасна бічуючы і высмейваючы ўсё адсталае, пошлае, паэт клікаў моладзь на барацьбу за ажыццяўленне найлепшых ідэалаў чалавецтва. Ён закляйміў тых, хто нізкапаклоннічае перад «заграничным», перад буржуазнай культурай і не разумее вялікага значэння нашай, совецкай культуры. І разам з тым, з якою любоўю і гордасцю Маякоўскі ўслаўляў дасягненні і поспехі перадавой совецкай моладзі, перамогі Ленінскага комсамола, адзначаныя высокай узнагародай — ордэнам Леніна. Верш «Добудь второй!» заклікаў комсамол павялічыць свае сілы і намаганні, каб атрымаць другое ганаровае прызнанне сваіх заслуг — другі ордэн Леніна. Як вядома, гэтае пажаданне Маякоўскага ажыццявілася яшчэ пры жыцці паэта.

Маякоўскі жыў адным жыццём з народам, адгукаўся на важнейшыя палітычныя падзеі ўнутранай і знешняй палітыкі совецкай краіны, заўсёды быў у першых радах змагароў. Ён і цяпер з намі ў барацьбе за мір, якую вядзе прагрэсіўнае чалавецтва.

Я ўспамінаю, як усюды, дзе з'яўляўся Маякоўскі, ён прыносіў у жыццё тэмперамент, сапраўднае творчае хваляванне. Бывала, ён з'явіцца на нарадзе ў Доме пісьменнікаў і стаіць, выпраміўшыся на ўвесь свой рост, нібы аддаўшыся толькі адным сваім думкам, і раптам смелым словам, адной рэплікай перабівае прамоўцу, які захапіўся ўласным красамоўствам. Потым зноў замаўкаў і зноў аддаваўся сваім думкам. Нават калі ён спрачаўся, гневаўся, у яго вобліку быў спакой і ўпэўненасць у тым, што праўда пераможа, яго вялікія вочы, якія загараліся нечакана, нібы гаварылі: усе нашы літаратурныя спрэчкі — гэта часовае, галоўнае — барацьба за нашу соцыялістычную Радзіму, за цудоўную будучыню. Усім сваім жыццём, сваёй творчасцю Маякоўскі — прыклад для совецкіх паэтаў.

Совецкі народ захоўвае глыбокую памяць аб лепшым і таленавіцейшым паэце нашай, совецкай эпохі. Многімі мільёнамі экземпляраў разыходзяцца творы паэта на ўсіх мовах народаў Совецкага Саюза. Вечары, лекцыі, даклады, прысвечаныя яго творчасці, збіраюць перапоўненыя аўдыторыі. Маякоўскі заслужыў гэтае ўсенароднае прызнанне, ён з намі і сёння, разам з намі ён змагаецца за шчасце чалавецтва. Ён заслужыў любоў і ўдзячнасць народа сваім творчым подзвігам, сваім талентам, сваімі творамі, якія ён усе, да апошняга лістка, аддаў справе барацьбы за комунізм.



Члены польскай дэлегацыі ў Мінску.

## ДРУЖБА ДВУХ НАРОДАЎ

Мінула дзесяць гадоў з таго часу, як паміж Совецкім Саюзам і Польскай Народнай Рэспублікай быў падпісаны Дагавор аб дружбе, узаемнай дапамозе і пасляваенным супрацоўніцтве. За гэтыя дзесяць год вырасла і замацавалася дружба паміж народамі Совецкага Саюза і Новай Польшчы.

Брацкая дружба і ўзаемнавыгаднае супрацоўніцтва ахоплівае ўсе галіны палітычнага, эканамічнага, культурнага і міжнароднага жыцця абедзвюх краін.

Совецкі Саюз аказвае бескарыслівую дапамогу Польшчы. Нашы тэхнічныя ўстановы пасылаюць у Польшчу тэхнічныя праекты, ліцэнзіі, чарцяжы. Інжынеры-практыкі, планавікі дапамагаюць польскім спецыялістам арганізоўваць работу на фабрыках і заводах. На буйнейшых заводах, будоўлях Совецкага Саюза пабывалі польскія інжынеры, рабочыя. Ім ёсць чаму павучыцца ў нашых праслаўленых шахцёраў, сталевараў, скараснікаў.

Вось прыклады дзелавога тэхнічнага супрацоўніцтва.

Металургічныя камбінаты «Варшава» і імя Леніна будуюцца па чарцяжах совецкіх інжынераў. Завод легкавых аўтамашын у Варшаве і Люблінскі аўтамабільны завод імя Балеслава Берута таксама будуюцца на аснове поўнай совецкай дакументацыі.

Многія заводы абсталяваны станкамі совецкай вытворчасці. Нямала рознага абсталявання пасылаюць у Польшчу беларускія заводы.

За апошнія дзесяць год таваразварот паміж Польшчай і Совецкім Саюзам вырас больш чым у 8 разоў.

У бібліятэках нашай рэспублікі кнігі польскіх пісьменнікаў на польскай, рускай і беларускай мовах не з'яўляюцца навінай. Толькі ў 1953 — 1954 гадах на беларускай мове выйшлі зборнікі апавяданняў і вершы польскіх пісьменнікаў А. Міцкевіча, М. Жулаўскага, С. Выгодскага, В. Варашыльскага, Б. Кучынскага, С. Дабравольскага і інш.

І польскі чытач мае магчымасць чытаць на сваёй мове Я. Купалу, Я. Коласа, М. Танка, Я. Брыля і інш.

Умацаванню культурных сувязей паміж БССР і Польшчай садзейнічаюць частыя паездкі польскіх дэлегацый, мастацкіх калектываў, спартыўных каманд у нашу рэспубліку. Нямала пабывала ў Польшчы і беларусаў.

Сотнямі год сеялася варожасць паміж нашымі народамі. Цяпер ні ў Польшчы, ні ў СССР няма эксплуататараў, знікла і варожасць. Вечная, непарушная дружба мацнее з кожным днём.

Яраслаў ПАРХУТА

## На граніцы

Птушка крыкнула спрасоння
Па-над рэчкай у трысці...
Тут граніцу можа сёння
Толькі вецер перайсці.

І рука — на аўтамаце.
Зноў у змрок начы глядзіш.
... А ў далёкай, роднай хаце
Мірным сном даўно ты спіш.

Сну-ж не ведае граніца.
Тут сваё жыццё, закон...
А табе... няхай прысніцца
У гэту ноч харошы сон.

## Паштальён

Вось і стойбішчы новыя
Сярод снежных раўнін.
Яго нарты паштовыя
Шмат змяшчаюць навін.

Тэлеграмай, газетаю
Ці звычайным пісьмом
Чукчам раніцай гэтаю
Ён парадуе дом.

А каму нехапае —
Пішуць ім у той час —
Уручыць абяцае
У наступны ён раз.

І пад песні завеяў
Нарты зноў паляцяць.
Быстраногіх аленяў
Ні за што не стрымаць.

І тады ўсміхаецца
Думкам радасным ён.
Так-бы ездзіць, не старыцца
Да канца сваіх дзён.

Далёкі Усход.

# ВЫДАТНЫ КАЗАЧНІК

**Да 150-годдзя з дня нараджэння Х. Х. Андэрсена**

Другога красавіка, паводле рашэння Сусветнага Савета Міру, усё прагрэсіўнае чалавецтва адзначала 150-годдзе з дня нараджэння выдатнага казачніка, вядомага дацкага пісьменніка Ханса Хрысціяна Андэрсена.

Ён нарадзіўся ў 1805 годзе ў невялікім гарадку Одэнсе ў сям'і шаўца. Маленства яго прайшло ў беднасці і нястачах — нават усё абсталяванне ў каморцы, дзе жыла сям'я, было зроблена рукамі бацькі. Будучы пісьменнік павінен быў стаць рамеснікам. Аднак з маленства ў Андэрсена з'явілася імкненне вучыцца, вырвацца з нястачы і цемры. Ён спрабаваў выступаць на сцэне, спяваць, пісаў п'есы для тэатраў у Капенгагене— сталіцы Даніі. Першыя яго драматургічныя творы адхіляліся дырэкцыямі тэатраў з прычыны таго, што былі напісаны з вялізнай колькасцю арфаграфічных памылак.

Юнака не збянтэжылі першыя няўдачы, ён вырашае вучыцца і ў 1823 годзе паступае ў гімназію. З 1827 года ў друку з'яўляюцца яго вершы, а ў 1829 годзе Андэрсен выдае першую кнігу — гумарыстычнае апісанне падарожжа «Прагулка ад Хольмскага канала да ўсходняга краю Амагера».

Андэрсен шмат падарожнічае па Еўропе, сярод яго сяброў з'яўляюцца буйнейшыя прагрэсіўныя дзеячы культуры — Генрых Гейне, Чарльз Дзікенс, вялікі венгерскі кампазітар Ферэнц Ліст, Віктор Гюго.

У выніку падарожжаў значна пашырыўся кругагляд пісьменніка, з'явіліся новыя ўражанні, якіх не магла даць Данія, што была ў той час адной з самых адсталых краін Еўропы. Ён піша камедыі, раманы, падарожныя нарысы. Дзякуючы раману «Імправізатар» (1835 г.), перакладзенаму на многія мовы, Андэрсен становіцца вядомым пісьменнікам.

Але найбольшую славу яму прынеслі казкі. У іх ён выявіў свой сапраўдны талент. З 1835 года і да самай смерці (1875 г.) яны выходзілі асобнымі зборнікамі і адразу-ж перакладаліся на многія мовы.

Цяпер няма бадай ніводнай краіны на зямным шары, дзе не ведалі-б «Брыдкага качаняці», «Крэсіва», «Салаўя», «Новага плацця караля». Чым дарагія гэтыя казкі не толькі дзецям, але і дарослым? Перш за ўсё, сваім глыбока народным, дэмакратычным зместам. Казкі Андэрсена блізкія да народнай творчасці, у іх шмат паэзіі, гумару, які іншы раз даходзіць да сатыры, яны прасякнуты ідэямі сацыяльнай справядлівасці, павагі да чалавека і яго працы.

Галоўнымі героямі казак Андэрсена звычайна з'яўляюцца беднякі, няшчасныя, пакрыўджаныя людзі, якія маюць незвычайную шчырасць, талент і высакароднасць. У яго казках размаўляюць кветкі і дрэвы, ажываюць рэчы і прадметы. І разам з тым казкі па сутнасці рэалістычныя. У іх перш за ўсё раскрываюцца чалавечыя ўзаемаадносіны, выкрываецца тупасць і абмежаванасць мяшчанскага грамадства з яго злосцю да ўсяго таго, што выходзіць за межы звычайных абывательскіх уяўленняў аб жыцці, з нянавісцю да таго, што не прыносіць выгады, з нелюбоўю да таленту.

Вядомае брыдкае качаня становіцца прыгожым лебедзем, але колькі нягод яму давялося прайсці, колькі здзекаў вынесла яно толькі з-за таго, што было брыдкім і нязграбным!

З гумарам піша Андэрсен аб звычайных для буржуазнага свету з'явах. Так у казцы «Крэсіва» вельмі проста тлумачыцца, чаму да збяднелага салдата перасталі хадзіць сябры: «Давялося перабрацца з добрых пакояў у маленькую каморку пад самым дахам, самому чысціць боты і зашываць на іх дзіркі, ніхто з сябраў не наведваў яго — вельмі ўжо высока было падымацца да яго!»

У казцы «Новае плацце караля» — ужо не гумар, а злосная сатыра на буржуазнае грамадства. Усе прыбліжаныя караля і сам кароль, баючыся, каб іншыя не падумалі, што яны не падыходзяць да пасады, робяць выгляд, што бачаць неіснуючыя тканіны і новыя адзенні. Толькі адно дзіця заўважае: «А кароль-жа голы!» І нягледзячы на тое, што ўвесь народ нарэшце крычаў: «На ім нічога няма!» — «кароль рабіў яшчэ больш ганарлівы выгляд, і камергеры ішлі і неслі шлейф, якога на самой справе не было».

У цудоўнай паэтычнай казцы «Салавей», якую ў маленстве вельмі любіў М. Горкі, імператарскаму двару і цывілізацыі, адыйшоўшай ад народа, супрацьстаўляецца натуральная паэзія, прырода і народ, які лепш за ўсіх прыдворных разумее сапраўднае мастацтва.

Андэрсен упэўнены, што лепшае месца ў жыцці павінен займаць той, хто працуе. Такім з'яўляецца, напрыклад, садоўнік Ларсен («Садоўнік і гаспадары»), які ўмее вырошчваць дзівосныя расліны ў садзе, але якога гаспадары могуць выштурхнуць за дзверы, калі ім уздумаецца. Людзі, падобныя да Ларсена, — сапраўдныя гаспадары краіны, лічыць Андэрсен.

Аднак з прычыны агульнай адсталасці Даніі, Андэрсен не бачыў шляхоў, якія маглі-б прывесці да сапраўднай сацыяльнай справядлівасці на зямлі. Яго дэмакратызм абмежаваны, часта носіць наіўны, сентыментальны характар. Гэтыя недахопы творчасці, якія асабліва выяўляюцца ў раманах, уласцівы і для некаторых казак Андэрсена.

Але Андэрсен дораг усяму прагрэсіўнаму чалавецтву як майстар выдатных казак, блізкіх да народнай творчасці, як вялікі гуманіст, які іранічна адносіўся да буржуазнай рэчаіснасці свайго часу.

**Б. МАРТЫНАЎ.**



## ВЕНГЕРСКІЯ ГОСЦІ АБ ПАЕЗДЦЫ Ў БЕЛАРУСКУЮ ССР

**Да месячніка венгера-савецкай дружбы**

Сотні кіламетраў аддзяляюць нашу рэспубліку ад Венгерскай Народнай Рэспублікі, але для дружбы венгерскага і беларускага народаў нічога не значыць гэтая адлегласць. З кожным годам пашыраюцца венгера-савецкія культурныя сувязі.

У выдавецтвах Венгерскай Народнай Рэспублікі за 7 год выдадзена на венгерскай мове звыш 100 твораў беларускіх пісьменнікаў: Янкі Купалы, Якуба Коласа, П. Броўкі, А. Куляшова, М. Танка, І. Шамякіна, А. Кулакоўскага, П. Прыходзькі і інш. Толькі ў 1954 годзе на мовах народаў СССР былі выдадзены пераклады 25 твораў венгерскіх пісьменнікаў.

Летась у Беларусі гасціла дэлегацыя Венгера-Савецкага таварыства. Госці пабывалі ў навуковых установах, клубах, тэатрах, у калгасе «Рассвет» Магілёўскай вобласці.

Вярнуўшыся на радзіму, глава дэлегацыі Ферэнц Эрдэі расказаў на прэсканферэнцыі прадстаўнікоў венгерскай грамадскасці аб сваіх уражаннях ад паездкі ў СССР. Ферэнц Эрдэі асабліва многа расказваў аб будаўніцтве ў Беларускай ССР.

«У Мінску, — гаварыў ён, — нам расказалі і паказалі новыя прадпрыемствы лёгкай прамысловасці — заводы па вытворчасці фотаапаратаў, прыёмнікаў, якія зараз будуюцца. На кожным заводзе нас знаёмілі з тэхналагічным працэсам. Паляпшэнне, спрашчэнне вытворчага працэсу, эканомія і рост якасці прагрэсіруе ў грандыёзных маштабах і лічыцца ўсюды першаступеннай задачай. Гэтаму падпарадкаваны намаганні ўсіх, пачынаючы ад дырэктара да ткачыхі і рабочага ад такарнага станка».

Ферэнц Эрдэі вельмі пахвальна гаварыў і аб росце механізацыі сельскай гаспадаркі. Нашы сельскагаспадарчыя машыны зрабілі на гасцей вялікае ўражанне.

«Вялікае ўражанне зрабіла на нас, — расказваў Ферэнц Эрдэі, — знаёмства з планаваннем горада Мінска, а таксама тое, што кожны яго жыхар мог выказаць сваю думку аб плане».

Гасцям вельмі спадабалася беларуская жыццерадасная моладзь, яе песні, танцы.

Венгерскі народ натхнёна будуе сацыялістычнае грамадства. Вялікі вопыт савецкага народа мае для працоўных Венгрыі рашаючае значэнне. Вось чаму наведанне венгерскай дэлегацыяй СССР з'явілася ўкладам не толькі ў пашырэнне культурных сувязей, але і ў будаўніцтва сацыялізма ў Венгрыі.

**А. ШМАТКОЎ.**

На здымках: уверсе — члены Венгерскай дэлегацыі сярод піянераў Мінска; унізе — старшыня калгаса «Рассвет» Магілёўскай вобласці Герой Савецкага Саюза К. Арлоўскі жадае главе дэлегацыі поспехаў у рабоце на карысць венгерскага народа.

Фота Д. Прэса.





# ЛІНАТЫПІСТКА

Ганна САПРЫКА

Апавяданне

Мал. Ф. Бараноўскага.

У гэты зімовы вечар Ніна ледзь не спазнілася на заняткі. Званок сустрэў яе ў вестыбюлі, а калі яна шумна ўбегла ў клас, за сталом ужо стаяла маленькая строгая Мар'я Іванаўна — выкладчыца рускай літаратуры — і няўхвальна пазірала на яе поверх акуляраў.

Не паспела Ніна аддыхацца і дастаць з партфеля сшыткі і кніжкі, як Мар'я Іванаўна, акінуўшы позіркам клас, сказала:

— Таварыш Мядзведзева!

Ніну часта выклікалі, хоць ніхто не мог растлумачыць, чаму яе выклікаюць часцей, чым іншых. Прозвішча яе не было першым у алфавітным спісу і сядзела яна не на першай парце, а на трэцяй. Можа таму, што гэтая кірпатая, з залацістымі косамі дзяўчына здавалася маладзейшай за ўсіх у класе, і настаўнікі лічылі, што такія маладыя вясёлыя істоты бываюць няўважлівымі і лёгкадумнымі і трэба ўвесь час не спускаць з іх вока.

Дзяўчына выйшла да стала. Яна крыху хвалявалася і нервова абцягвала блакітны вязаны жакецік, надзеты на цёмную сукенку. Ружовыя з марозу шчокі цяпер заружавелі яшчэ больш, ледзь уздрыгвалі тонкія выразныя вусны. Клас прыціх, толькі чуваць быў звонкі, крыху дрыжачы голас Ніны.

На ўрок была зададзена «Песня пра сокала» Горкага. Мар'я Іванаўна патрабавала, каб гэты твор вучні вывучылі на памяць. І цяпер, слухаючы Ніну, настаўніца стаяла крыху збоку ля століка і ўсміхалася. Яна была ўзрушана, бо дзяўчына расказвала твор любімага пісьменніка з пачуццём, выразна і прыгожа, і ўсе слухалі яе з захапленнем.

Калі Ніна скончыла і паімкнулася была пайсці на сваё месца, настаўніца затрымала яе і пачала «ганяць» па матэрыялу, пройдзенаму раней. Ніна расказвала пра раннія творы Горкага. Расказвала ўпэўнена, грунтоўна. З усіх бакоў у класе пачуўся шэпт вучняў:

— На пяць...

— Пяцёрку, не інакш!

Але прыдзірлівая Мар'я Іванаўна не спяшалася з адзнакай. З кіпы сшыткаў яна выцягнула сшытак Ніны і зачытала ўрыўкі з яе ўкладання. Яна была задаволена тым, што тэма правільна зразумета і разгорнута, думкі выкладзены паслядоўна і пісьменна. Адначасова настаўніца падкрэсліла, што ў некаторых вучняў асобныя моманты распрацаваны недастаткова глыбока або зусім няправільна. Нарэшце, яна аддала сшытак Ніне і сказала:

— Са спакойным сумленнем стаўлю вам «пяць».

— Ну, каму-ж тады пісаць на «пяць», калі не ёй, — сказаў Вася Чэпелеў, які сядзеў за Нінай. — Вунь пра яе пішуць.

І ён дастаў газету-шматтыражку друкарні, у якой была надрукавана невялікая заметка: «Лепшая лінатыпістка» і змешчана фото Ніны. Вядома, газета ўпотай ад Мар'і Іванаўны абыйшла ўсе парты, і Ніна крыху бянтэжылася, адчуваючы на сабе ўхвальныя позіркі.

На перапынку заспрачаліся вучні, што сядзелі ззаду, за Нінай. Чамусьці сюды захацеў перасесці Горык Шаблоўскі. Ён пачаў прасіць Васю Чэпелева перамяніцца з ім месцамі. Але той сустрэў яго няпрыязна:

— Што табе, там цесна?

Скончылася тым, што Горык выштурхнуў васевага суседа і сам сеў на яго месца.

Ніна здагадвалася аб прычыне таго, чаму Горык перасеў сюды, і гэта яе вельмі ўсхвалявала.

Збоку здавалася, што Ніне ўсё даецца вельмі лёгка. На самай справе гэта было не зусім так. Праўда, яна была здольная вучаніца, але ставілася да сябе куды больш патрабавальна, чым яе таварышы, і часта была незадаволена сабой. Яна адчувала, што ў параўнанні з іншымі, магчыма, яна адказала лепш, але часта ўвесь матэрыял, які задавалі настаўнікі, яна не паспявала вывучыць так грунтоўна, як ёй хацелася. Ці ведае яна фізіку так, як гэты токар-рацыяналізатар Сумцоў, які сядзіць на першай парце, ці можа так лёгка разбірацца ў складаных матэматычных формулах, як Вася Чэпелеў?

Усё-ж вучылася Ніна старанна і з вялікай ахвотай. З кожнай новай старонкі кнігі, з кожнай новай лекцыі яна даведвалася пра новае, цікавае, раней невядомае, і гэта цалкам захапляла яе. Вось каб толькі было крыху больш вольнага часу. У дзённай школе, вядома, было-б лепш, але што зробіш, калі так склалася жыццё...

Ніна невыразна памятала сваё дзяцінства, калі яна, малая, гуляла з дзецьмі ў квача, кошку і мышку, пад вокнамі хаты на прасохлай вуліцы малявала «класы». Часам Ніна выносіла на прызбу часопіс «Мурзілку», які выпісваў ёй бацька — вясковы настаўнік, і чытала яго дзецям. Чытаць яна навучылася вельмі рана. У такія хвіліны маці, пазіраючы на дачку, гаварыла: «Ніна будзе, як і бацька яе, настаўнічаць».

Але жыццё дзяўчынкі склалася па інакшаму. Бацька яе загінуў у баях пад Курскам. Маці — сувязная партызанскага атрада — аднойчы не вярнулася з задання, і Ніну ўзяла да сябе суседка.

Пасля вызвалення рэспублікі Ніну ўзялі ў дзіцячы дом. Тут у вялікай дружнай сям'і выхаванцаў яна вырасла, скончыла сем класаў. А потым і на свой хлеб пайшла — паступіла ў рамеснае вучылішча пры друкарні.

Калі Ніна, скончыўшы рамеснае вучылішча, першы раз прышла ў наборны цэх і села за новенькую разумную машыну — лінатып, — яна адчула і па-сапраўднаму зразумела, што яе прызванне тут, у друкарні, у гэтым цэху.

Ніна любіла працу. Яна добра зарабляла, разам з дзяўчатамі мела кватэру ў доме друкарні. Ёй падабалася прыгожа апрануцца, павесяліцца, пажартаваць. Яна была гарэзлівая і бесклапотная, як амаль кожная маладая дзяўчына.

На кожным перапынку Горык Шаблоўскі рассыпаў дасціпныя жарты, жадаючы гэтым звярнуць на сябе ўвагу Ніны. Дзяўчына стрымана ўсміхалася; азіраючыся, яна бачыла бліскучыя шэрыя вочы Горыка пад густымі брывамі, кучаравы цёмны чуб, прыгожую постаць.

Горык вучыўся ў гэтай школе з восені. Сярод іншых вучняў ён вызначаўся ўпэўненасцю, любіў кінуць прыгожае слоўца і часам пакпіць з таварышаў. З Нінай ён быў падкрэслена далікатным, ветлівым.

«Цікава, якая ў яго спецыяльнасць?» — думала Ніна. Аднойчы яна запыталася:

— Дзе ты працуеш, Горык?

— Я? — Горык прыжмурыў вочы. — Вольны мастак.

— І ў якой галіне мастацтва? — наіўна дапыталася дзяўчына.

— Самай цікавай... — загадкава адказаў ён.

Ніне ўсё-ж здавалася, што Горык мае нейкае дачыненне да мастацтва. Ён ахвотна размаўляў пра кінокарціны, пра асобных акцёраў, пра тэатральныя пастаноўкі. Часам ён прыходзіў з фотаапаратам, і вучні ў класе далі яму мянушку «апаратар».

Неяк — было гэта ў пачатку зімы — Горык запрасіў Ніну ў кіно. Ішла карціна «Лёс Марыны». Горык падрабязна расказваў пра тое, як здымаўся гэты фільм, і Ніна здзіўлялася, адкуль ён усё гэта ведае. Да пачатку сеанса

прагульваліся ў файе, елі марожанае. Пасля кіно Горык праводзіў яе дадому.

Затое Вася Чэпелеў з першага дня, калі Горык перасеў да яго, узненавідзеў хлапца. Ніна здзіўлялася, чаму Вася бачыў у Горыку толькі ўсё адмоўнае, і адкуль у Васі столькі злосці?

Вася Чэпелеў працаваў у друкарскім цэху на новай афсетнай машыне. Ніна бачылася з ім толькі ў сталовай або ў час перапынку на двары друкарні. Тут улетку добра пасядзець на лавачках, пашпацыраваць па дарожках ля клумбаў і газонаў, паслухаць радыё. А моладзь і тут знойдзе хвілінку, каб патанцаваць або паспяваць песні. Некаторыя хлопцы жартавалі, смяяліся з дзяўчатамі, але Вася заўсёды трымаўся ўбаку. Часам дзяўчаты жартавалі з яго, а ён бянтэжыўся і адмахваўся ад іх, пакуль, нарэшце, яны не пакідалі яго ў спакоі.

Праўда, Ніна не дазваляла сабе жартаваць з Васі: яна паважала яго. Між імі ўстанавіліся добрыя таварыскія адносіны яшчэ з восьмага класа, куды яны разам пайшлі займацца. Цяпер, у дзесятым, ён лічыў сваім абавязкам трымаць над ёю шэфства — дапамагаць па матэматыцы, якая яму лёгка давалася і якую ён добра ведаў.

Часта яны пасля заняткаў разам ішлі дадому. Ад школы да праспекта вяла ціхая, асветленая рэдкімі ліхтарамі вуліца. Заняткі заканчваліся позна, і Ніна была рада, што ёсць спадарожнік. Вася быў добрым таварышам, дзяліўся з ёю сваімі радасцямі і засмучэннямі. Часцей за ўсё гэта датычылася работы. На машыне ў цэху, дзе працаваў Вася, друкаваліся дзіцячыя кніжкі, і часам малюнкі атрымліваліся няяркія, невыразныя, фарбы расплываліся. Гэта заўсёды засмучала Васю, і ён расказваў Ніне, якія ён вынаходзіў спосабы, каб пазбегнуць мазні. Часта ён успамінаў, як добра выдаюць такія кніжкі ў Маскве, дзе ён быў на курсах паліграфістаў. Хоць Вася лічыўся вопытным, добрым друкаром, усё-ж ён не задавальняўся сваёй працай. Ён марыў паступіць у паліграфічны інстытут, каб стаць сапраўдным спецыялістам.

Вася агітаваў Ніну таксама пайсці ў паліграфічны інстытут, гаварыў, што добра было-б разам рыхтавацца да экзаменаў.

Хоць Ніна і вельмі падабалася Васілю, але ён не адважваўся загаварыць з ёю пра каханне. Ён задавальняўся тым, што яна ўважлівая да яго, і таму баяўся, што прызнанне ў каханні напалохае яе: яна пачне пазбягаць яго, або яшчэ горш — высмее, і хлопец знайшоў у сабе дастаткова сілы волі, каб стрымаць пачуцці і абмежавацца покуль што дружбай і ўзаемнай павагай.

Цяпер-жа яго адносіны зрабіліся інакшымі.

Аднойчы Горык не прыйшоў некалькі дзён на заняткі. Ніна прыкметна непакоілася. Калі хто адчыняў дзверы ў клас, яна нецярпліва паварочвала галаву, азіраючы вачыма таго, хто ўваходзіў. І Вася Чэпелеў не ўтрымаўся, каб не заўважыць ёй здзеклівым тонам:

— Дзе-ж той мілы, чорнабрывы?.. А ён спакойненька сабе прагульвае, не ходзіць на заняткі і не звяртае ўвагі, што яго Дульцынея хвалюецца.

Ніна ўспыхнула:

— Па-першае, Дульцынея тут зусім недарэчы. А па-другое, адкуль ты ведаеш, што прагульвае? Можа, хворы.

— Хворы! Я проста здзіўлены, што ты так не разумееш людзей.

— Што гэта значыць?

Але пачаўся наступны ўрок, і пагаварылі яны «па душах» толькі пасля заняткаў, калі ішлі дадому:

— Што ты хацеў гэтым сказаць пра Горыка? Няўжо ты думаеш, калі вы з ім пасварыліся, дык і мне з ім абавязкова сварыцца.



— Сварыцца не трэба, а ведаць, што за чалавек — трэба.

— У цябе, Вася, характар дрэнны, — як мага спакайней пачала Ніна, — проста ты зайздросціш.

---

Драго СІЛІЧЫ

## Горад дружбы

*Бурат-мангольскаму таварышу Салбону Ангабаеву*

Усім Масква нам дружбу падарыла,
І чыстай ёй у нашых сэрцах жыць,
Як вечна зелянець албанскім схілам,
Як сонцу ярка над зямлёй свяціць.

З Іванам к Краснай плошчы мы спяшаем,
І вось мы з ім у Маўзалей прыйшлі,
І моўчкі шапкі мы з галоў здымаем
Перад правадырамі ўсёй зямлі.

Яны да дружбы шлях нам паказалі,
І жыць у справах нашых вечна ім...
Мы каля сцен Крэмлёўскіх пастаялі,
Далі мы волю марам дарагім.

Табе апавядаю я пра Маці,*
Пра Баргузін ты пачынаеш сказ...
Святлом і нашы рэкі заіскрацца,
Як Волга-матухна ў вячэрні час.

Не знаў маёй ты, я тваёй Радзімы,
Ды праз сталіцу дружбы, праз Маскву,
Цяпер Байкал твой бачу я любімы,
А ты майго Охрыя ** сіняву.

Расстання прыдзе час, напэўна, скора,
А дружбы нашай не астыне жар.
Ты ад Цаяна, я ад гор Таморы
Аб стэпах рускіх будзем поўны мар.

Прыгадваць будзем гутаркі свае мы,
Красой краіны нашы аздабляць,
І кветкі лепшыя сваіх зямель мы
Маскве, як маці, будзем пасылаць.

* Маці — рака ў Албаніі.
** Охрыя — возера ў Албаніі.

Малады албанскі паэт Драго Сілічы нарадзіўся ў 1930 годзе ў горадзе Тырана ў рабочай сям'і. У 1947—1952 гг. працаваў рэдактарам газеты «Новы літаратар» — орган Саюза пісьменнікаў Албаніі. Быў комсамольскім работнікам. З 1949 года член ЦК Комсамола Албаніі.

Па просьбе рэдакцыі часопіса «Маладосць» Драго Сілічы прыслаў свае новыя вершы, якія мы змяшчаем ў перакладзе з албанскай мовы.

## Папалам

З таго часу, як мы пакахалі,
То закон напісалі мы свой:
Папалам падзяліць нашу радасць
І сардэчных трывог непакой.

Папалам, што ў жыцці ў нас ні будзе, —
Слодыч шчасця ці горач тугі.
Калі песню адзін заспявае,
Заспявае яе і другі.

Мы адзіныя ў думках і марах.
Права гэткае дадзена нам.
Калі хто-небудзь з нас разллуецца —
Дзелім крыўду сваю папалам.

Будзе ў нас ці сынок, ці дачушка,
Яны будуць твае і мае.
І таму тваё сэрца заўсёды
Заадно з маім сэрцам пяе.

Пераклаў А. Астрэйка.

## Маці—албанцу матуля яго

Маці сурова спявала ў паводку
Песню свавольную. Бачылі мы,
Як яна злосна выкідвала лодкі,
Зносіла ў мора стагі і дамы.

Білася аб прыбярэжныя скалы,
Ды над паверхняю хваляў сівых
Часам калыскі яна калыхала
З дзецьмі малымі, што плакалі ў іх.

Міма дамоў прабягаючы ноччу
І пакідаючы пены сляды,
Выгнула спіну, як барс, і аднойчы
Скокнула Маці на нівы, сады.

Збожжа ўраджай на палях затапіла,
Нельга было па дарогах прайсці.
Голасам голаду старасць прасіла:
— Ты на старога не злуй, прапусці.

Маці ў адказ не сказала нічога,
Хвалі яе забурлілі кругом,
Злосна схапіўшы ў абдымкі старога
Разам з яго ішаком і мяшком.

Вольнай Албаніі воблік цудоўны!
Маці — албанцу матуля яго...
Ты пад рукамі албанскіх працоўных
Стала інакшаю з часу таго.

Два берагі, што калісь ад разлукі
У пасобку тужылі вякі,
Быццам браты два, пацiснулі рукі
Па-над шумліваю плынню ракі.

Мост над ёй выгнуў жалезную спіну,
Лапамі моцна да грунту прырос.
Дзед з ішаком, матацыклы, машыны
Гужам ідуць і ідуць цераз мост.

Вецер над ёй правадамі іграе.
Маці пяе і пяем з ёю мы...
Светлай усмешкай яна азарае
У новых сялібах албанцаў дамы.

Пераклаў М. Аўрамчык.

— Вось гэта ўжо няпраўда! — не згадзіўся Вася. — Ніколі нікому я не зайздрошчу.

— Ты зайздросціш, што ён прыгожы, развіты, дасціпны, любіць музыку, тэатр, кіно...

— Хіба ты не бачыш, што ў Горыка ўвесь яго лоск — гэта толькі паказное, знешняе? «Вольны мастак!» Думаеш, ён працуе дзе? Па два гады сядзеў у дзённай школе: часу не было, беднаму, займацца, цэлымі днямі ганяў мяч на школьным двары. Цяпер зусім папрасілі адтуль. Пайшоў у вячэрнюю, думае, тут будзе лягчэй. Гэта, брат, такі мамчын сынок! Бацька яго працуе ў цырульні і, калі пачынаецца сезон шасцімесячных завівак, кажа, што зарабляе, як прафесар. Маці-ж для Горыка нічога не шкадуе. Надоечы ён хваліўся, што яна на ўсе канцэрты Лемешава купіла яму білеты. Яна так яго песціць, нават называе не Рыгорам, а Горыкам. Уявіла, што ён будзе артыстам.

— А што ты думаеш, — святыя гаршкі лепяць? Можа і будзе.

— Не, каб быць артыстам, трэба сур'ёзна працаваць. А ён страшэнны гультай. Тое, што ён крыўляецца пад некаторых артыстаў, — яшчэ далёка ад мастацтва.

— Адкуль ты гэта ўсё ведаеш? — збянтэжана запыталася Ніна.

— Ведаю. І ўсім ужо вядома. А вось шкада, што ты не хочаш гэтага ведаць. Думаеш, ён сур'ёзна, шчыра можа сябраваць. Яму цікава падглядзець, калі ты пішаш дыктоўку або рашаеш задачы. Таму ён такі салодзенькі з табой.

Гэтыя словы збянтэжылі Ніну. Яна нават не адразу знайшла, што адказаць. Усё-ж ёй хацелася штосьці колкае сказаць Васю.

— Ты проста злуешся, што ён абазваў цябе Чапялой, а не Чэпелевым, пасля сходу, калі ты крытыкаваў яго за двойкі.

Нават не развітаўшыся, яны пайшлі кожны ў свой бок.

Назаўтра Ніна, як заўсёды, сядзела за сваім лінатыпам. Але не было той уважлівасці, якой дзяўчына заўсёды вызначалася на рабоце. Яна ніяк не магла сканцэнтраваць увагу на тэксце, які трэба было набіраць. Думкі, нібы стайка шпакоў увосень, пераляталі, мітусіліся. Тое, што сказаў учора Вася Чэпелеў, пакрыўдзіла яе дарэшты. І ёй усё хацелася давесці, што Вася не праў, неяк апраўдаць Горыка.

«Дарэмна так хвалюецца Чэпелеў. Сам толькі і сядзіць над сваімі падручнікамі. Сухар... У самога толькі размовы пра афсеты, фарбы ды матэматыку, а цяпер яшчэ моду ўзяў — зласловіць. А зрэшты, якая яму справа? Можа не турбавацца. Сама ведаю, з кім сябраваць».

І ў той-жа час нейкі ўнутраны голас падказваў, што ў словах Васі была доля праўды. Так, яна шмат чаго не заўважала.

На момант Ніна задумваецца. Потым, схамянуўшыся, праглядае радкі набору і бачыць, што набірае з памылкамі. Вось табе і на! Яна моршчыць лоб, намагаецца ўсю ўвагу сканцэнтраваць на наборы, і праз хвіліну зноў ловіць сябе на тым, што думкі яе заляцелі далёка.

У час перапынку падышоў Вася. Загаварыў проста, нібы ўчора нічога не было.

— Задачы ў цябе выйшлі?

— Не, не рашала яшчэ, — адказала Ніна.

— Гэта задачы на вылічэнне аб'ёму ўсечанай піраміды. — І Вася, як заўсёды, спакойна і грунтоўна растлумачыў ёй рашэнне.

Раптам Ніну паклікалі да тэлефона.

Яна пабегла ў суседні з цэхам пакой вытворчага аддзела.

— Гэта ты, Нінок? — пачуўся ў трубцы знаёмы голас.

Ніна зачырванелася, пачуўшы голас Горыка.

— Чаму ты звоніш?

— Ведаеш, я гэтыя дні не быў на занятках.

— А дзе-ж ты быў?

— Лемешаў не часта прыязджае...

— У оперны хадзіў?

— Ведаеш, любата! «Куда, куда вы удалились!» — зацягнуў Горык перад тэлефоннай трубкай.

Ніна азірнулася — ці не чуе хто з таварышаў.

— Дык чаму ты звоніш?

— Што, часу не маеш? Дык вось што, ты там сшыткі захапі і прыдзі крышку раней — раскажаш, што прайшлі за гэтыя дні.

— Добра, — паабяцала Ніна.



Горык падзякаваў і дадаў:

— Ніна! Заўтра пойдзем на каток? У цябе-ж выхадны?

— Пойдзем, — не задумваючыся, адказала дзяўчына і, разгубленая, пайшла назад у цэх. Перапынак яшчэ не скончыўся, але Васі ўжо не было. Ніна падыйшла да акна. Адсюль, з вышыні трэцяга паверху, відаць было, як далёка раскінуўся знаёмы горад. Цяпер ён быў у зімовым убранні. Дахі дамоў пабеленыя, дрэвы апушаныя белым. Ніна заўсёды любіла зіму і рыхтавалася да яе. Нядаўна яна купіла лыжны касцюм васільковага колеру з белым. Ён ёй так да твару. І яна марыла, што пойдзе ў ім з Горыкам на каток або паедзе на лыжах.

І вось Горык запрасіў яе пайсці заўтра на каток, але на сэрцы чамусьці не весела. Яна ніяк не можа дараваць Горыку, што ён прапусціў столькі урокаў. Яна таксама бачыла афішы па гораду, ёй таксама цікава было паслухаць Лемешава. Друкарня нават закупіла адзін канцэрт. Але шкада было прапускаць заняткі. І яна не пайшла, толькі па радыё праслухала оперу. І Горык мог-бы раз, ну, два схадзіць... А цяпер няўжо ён адразу ўсё прапушчанае нагоніць? А ў хлопца і так двоек хапае...

Калі Ніна прышла ў школу, Вася чакаў яе каля ганку і, пакуль яны падымаліся па лесвіцы, паведаміў ёй, што заўтра моладзь іх цэха едзе на лыжах (трэніроўка да спаборніцтваў), і запытаўся, ці паедзе яна. Ніна ўсё яшчэ была пад уражаннем таго, што абяцала Горыку пайсці з ім на каток, таму паехаць на лыжах адмовілася. І наогул размова з Васем не ладзілася.

Горык чакаў яе ў класе. У шэрым, спартыўнага пакрою, добра пашытым гарнітуры, у якім, мусіць, хадзіў у тэатр, ён меў святочны выгляд. Як заўсёды, выхвальна і развязна, ён расказваў вучням, як праходзілі канцэрты вядомага артыста.

Убачыўшы Ніну, ён падкрэслена ветліва, з тэатральным жэстам прывітаўся, а потым звярнуўся да яе.

— Дай сшыткі па матэматыцы!

Ніна працягнула яму задачнік і паказала нумары задач.

— Не, ты мне дай рашэнне.

Горык бесцырымонна выхапіў у яе з рук сшытак і пачаў паспешліва перапісваць задачы. Ніна абурылася. Спісваць! Усёроўна нічога не будзе ведаць. Хіба ён не разумее, што так не вучацца — трэба рашаць самому. Вася Чэпелеў, заўважыўшы гэта, іранічна ўсміхнуўся і паглыбіўся ў падручнік гісторыі.

А Горык, спісаўшы задачы, папрасіў у яе сшытак з укладаннем.

— Ці не думаеш ты і гэта спісаць?

— А што? Лоўкасць рук і ніякага машэнства. У дзённай школе мы, бывала, не такія яшчэ нумары адколвалі. На шпаргалачках, будзьце ўпэўнены... — выхваляўся ён.

Пачаліся заняткі. Мар'я Іванаўна строга і дзелавіта, як заўсёды, пачала ўрок. На гэты раз першым яна выклікала Горыка.

— Як не пашанцуе, дык спачатку, — пацiснуў плячыма хлопец і голасна сказаў: — Я сёння не буду адказваць. Хварэў.

Клас насцярожыўся: толькі што Горык расказваў пра канцэрты.

— Усё хварэеце? — здзівілася Мар'я Іванаўна, пазіраючы на свежы твар хлопца. І тут-жа, не спяшаючыся, перагарнула класны журнал і прачытала горыкавы адзнакі. Асабліва шмат было прапушчаных гадзін.

— Хутка мы заканчваем поўгоддзе. Калі вы так часта будзеце хварэць — вынікі будуць яшчэ горшыя.

— У яго хранічная хвароба: лянота, — пачулася з задняй парты.

Усе засмяяліся.

Горык азірнуўся. У вачах усіх ён бачыў дакор і пагарду. Дробязна і запальчыва ён пачаў спрачацца, даводзіў, што ён заўсёды адказвае добра, а настаўнікі яму няправільна ставяць адзнакі.

Гэтая нахабная хлусня страшэнна абурыла Ніну. Ёй было вельмі сорамна за Горыка. Яна пачырванела і не магла ўзняць вачэй.

«Чаму ён хлусіць?» — думала яна, слухаючы яго спрэчку з настаўніцай. Ніне, заўсёды

дысцыплінаванай на рабоце і ў школе, былі незразумелымі і вельмі непрыемнымі паводзіны хлопца. Ёй было крыўдна за яго.

Пасля заняткаў Ніна знарок павольна пачала збіраць кніжкі і сшыткі, ёй хацелася без сведкаў пагутарыць з Горыкам. Мелькам яна бачыла, як, акінуўшы іх пагардлівым позіркам, пайшоў Вася Чэпелеў. «Пакрыўдзіўся не на жарты», — мільганула думка.

Праз хвіліну клас апусцеў, толькі Горык таксама не спяшаўся выходзіць. «Ніна засталася, значыць, мне спачувае, разумее мяне», — падумаў ён і ўсміхнуўся ёй прыязна і ўдзячна.

Але Ніна нахмурылася.

— Слухай, Горык, чаму ты так нядобра робіш?

— А што такое? — Горык прыкінуўся здзіўленым. Самалюбства заўсёды не дазваляла яму прызнаваць свае памылкі. Таму і зараз ён наважыў пярэчыць.

— Гэта-ж несумленна так рабіць. Ты-ж сам сябе ашукваеш. У цябе-ж не будзе добрых ведаў. Як-жа ты пойдзеш у інстытут, як будзеш працаваць? — дрыжачым ад хвалявання і крыўды голасам гаварыла Ніна.

Горык перапыніў яе:

— Хопіць таго, што зараз «русалка» (так ён называў выкладчыцу рускай мовы) прабрала мяне і паставіла кол. І ты ўздумала на мяне нападаць? Падумаеш, канцэрт паслухаў — вялікая бяда. Трэба столькі шуму рабіць.

— Але-ж справа не ў канцэрце!

— А ў чым?

— Не ведаеш, у чым? Не разумееш? Як ты сёння трымаў сябе ў класе, чаго нагаварыў? Нібы ўсе на цябе нападаюць... Токар Сумцоў тры гадавыя нормы выканаў, у кінохроніцы мы яго бачылі, а ў класе ён не задаецца нічым. Ты лічыш сябе лепшым за ўсіх, задаешся перад усімі, а на самай справе ты дробязны і несумленны чалавек. Столькі маеш вольнага часу, а просіш сшытак задачкі перапісаць. Каб так на рабоце: адзін зрабіў, а другі прысуседзіўся на гатовае, як-бы гэта называлася? І якія веды ў цябе будуць, калі так перапісваць механічна...

— Нічога! Будзе не механічна, а фізічна, — сказаў Горык, падміргнуўшы ёй вокам, а потым падышоў зусім блізка і развязна паспрабаваў абняць дзяўчыну. Ён хацеў абурэнне яе звярнуць на жарт.

— Ну, ну, без рук!.. — строга папярэдзіла Ніна.

— «Нина, ты меня не любишь, Нина, ты меня погубишь...» — трагічна праспяваў Горык. Але гэта толькі разззлавала яе.

— Як табе не сорамна?

Яна адштурхнула хлопца і выйшла з пакоя. У пустых класах прыбіральшчыцы перакульвалі парты, спяшаліся зрабіць уборку. Ніна збегла ўніз, выйшла на вуліцу. Ззаду плёўся Горык.

— Ніна, калі заўтра пойдзем на каток? — мякка паспрабаваў загаварыць з ёю хлопец.

— Я не пайду на каток, — не азіраючыся, сказала яна.

— Можа, з Чапялой дамовілася? — заўважыў Горык.

Ніна рэзка павярнулася.

— Якое права ты маеш зневажаць? Табе далёка да яго. Блазан гарохавы!

— Зразумела, усё зразумела, — мармытаў Горык, настаўляючы каўнер паліто.

На вуліцы ў святле ліхтароў карагодам кружыліся раі сняжынак. Ніна хутка ішла па слізкім тратуары, прагна ўдыхаючы марознае паветра.

Яна дакарала сябе за лёгкадумнасць, за тое, што пакрыўдзіла Васю Чэпелева. Асабліва мучыла тое, што так памылілася ў Горыку. На памяць прыйшлі словы выдатнага пісьменніка, якія ёй аднойчы прачытаў Вася Чэпелеў: «Можа быць дружба без кахання, але мізэрнае тое каханне, у якім няма дружбы, сяброўства, агульных інтарэсаў».

Горык ціха ішоў услед, і яму таксама было не па сабе. Ён успомніў апошні позірк Ніны, у якім адчуваліся дакор і пагарда, такая-ж пагарда, якую ён бачыў у вачах вучняў усяго класа. А гэта было бадай што самае страшнае. Ніна яму не толькі падабалася, дружба з гэтай дзяўчынай здавалася яму тым масцікам, праз які ён наблізіцца да калектыву, і таму ён даражыў гэтай дружбай. Зараз спрэчка з дзяўчынай знішчыла гэты масцік, і на сэрцы ў хлапца было тужліва пачуццё адарванасці і адзіноты. Напускны, штучны форс яго зляцеў. Ён нагадваў цяпер вінаватага школьніка, які хацеў неяк загладзіць свой учынак.

Ніна выйшла на асветлены праспект, спынілася ля тралейбуснага прыпынку. Вецер змятаў з асфальту снег, насыпаючы каля тратуараў гурбачкі. Людзей у гэты позні час было мала.

«Мабыць, заўтра на лыжах не паедуць. Завіруха разгулялася», — падумала дзяўчына. Позірк яе спыніўся на Горыку, які стаяў тут-жа, мабыць, хацеў правесці яе дадому. Ёй было прыкра гэта.

З мяккім шоргатам падышоў тралейбус. Ніна паднялася на прыступкі, зайшла ў вагон. Пальчаткай змахнула снег, што апушыў вязаную шапачку,

«Сёняшні набор трэба будзе ўвесь-увесь зрабіць нанава», — раптам вырашыла яна, праходзячы далей у вагон.

А Горык доўга яшчэ стаяў на праспекце і глядзеў услед адышоўшаму тралейбусу.



# Гумар

Тэкст **А. ВІДЭЛЬКІ І Р. ПАДГОРНАГА.**

Мал. А. Волкава.



**Ля новага дома гулялі рабяты:**
**Дзеда ляпілі са снегу, як з ваты.**
**Майстэрствам валодалі слаба,**
**Дык выйшла ў іх тоўстая баба.**
**Пабеглі яны, пагулялі у снежкі,**
**Вярнуліся к бабе, — на тварах усмешкі, —**
**Ляпілі адну, а другая — з ёй поруч,**
**У гэткім-жа самым уборы,**
**Хоць стаў іх на пудзіла дзе ў агарод,**
**Або ў атэлье, як узор новых мод.**

**Вось «стыляга», вось дзівак,**
**Быццам певень ходзіць...**
**А малому і няўзнак,**
**Што даніна модзе.**
**На «стылягу» глянуў зноў**
**І гаворыць:**
**— Мама,**
**Вырас дзядзька са штаноў,**
**Як і я, таксама.**





Настала для вясны раздолле!
Знікаюць лапінкі снягоў...
Лёд не ўтрымаў раку ў няволі,
Рака выходзіць з берагоў.

Чуваць навокал гром і скрыгат.
Калі прачнешся на зары,
Не зразумець —
Ракочуць крыгі,
Ці ўжо грукочуць трактары.

Фотаэцюд М. Ананьіна.